Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

№ 9
1930
Верасень
Год выданьня IV



Лес шуміць

# Афіцыйны аддзел

## I. Агульнае палажэньне

1. З мэтай найлепшага разьвіцьця вытворчасьці і прамысловасьці ў паляўнічай каапэрацыі і для лепшага арганізацыйнага і культурнага абслугоўваньня паляўнічых мас, а таксама для лепшай арганізацыі паляўнічай і зьвераводнай гаспадаркі, для барацьбы з браканьерствам і драпежнікамі: у саўгасах, у камунах, калгасах, на фабрыках, заводах і ўстановах і ў крайніх выпадках пры сельсавеце арганізуюцца паляўнічыя ячэйкі.

2. Для дасягненьня паказаных у арт. 1-м гэтага Палажэньня мэтаў паляўнічыя ячэйкі:

а) садзейнічаюць рацыянальнаму вядзеньню паляўнічай і зьвераводнай гаспадаркі, а таксама ахове пушных зьвяроў і дзічыны ад драпежніцкага зьнішчэньня, для гэтага яны робяць досьледы і вывучаюць паляўнічыя ўгодзьдзі і арганізоўваюць ахову іх, арганізоўваюць па згодзе з адпаведнымі дзяржаўнымі, каапэрацыйнымі і грамадзкімі органамі зьнішчэньне драпежнікаў паляўнічай і сельскай гаспадаркі і ажыцьцяўляюць мерапрыемствы, якія ў гэтай галіне будуць ужывацца паляўнічай каапэрацыяй і дзяржаўнымі органамі;

б) ажыцьцяўляюць захады да зьнішчэньня шалёных і бадзячых сабак і катоў і самастойна арганізоўваюць адстрэл іх, а таксама і іншых драпежных зьвяроў і птушак шляхам утварэньня брыгад і каманд для гэтай мэты;

в) садзейнічаюць сваім членам у справе зьверагадоўлі, а таксама арганізуюць калектыўныя гадавальнікі трусаводзтва, ужываюць захады да павялічэньня колькасьці паляўнічага зьвера і птаства, для гэтага арганізуюць у патрэбных выпадках падкормку іх, падсеў кармавых расьлін і г. д.;

г) садзейнічаюць вывучэньню колькасьці і складу паляўнічага зьвера і птаства, зьбіраюць статыстычныя весткі і ажыцьцяўляюць сваячасовасьць і плянавасьць у адстрэле дзічыны і вядзеньня паляўнічай гаспадаркі;

д) ажыцьцяўляюць нагляд за захаваньнем усімі паляўнічымі і насельніцтвам правіл паляваньня і выяўляюць выпадкі браканьерства і адначасова вядуць барацьбу з ім, а таксама са зьнішчэньнем птушыных і зьвярыных гнёздаў, зьбіраньнем яек, разбурэньнем логаваў і нор карыснага паляўнічага зьвера і г. д.;

е) вядуць культурна-асьветную працу і пашыраюць веды па паляўніцтву і зьверагадоўлі сярод сваіх членаў і насельніцтва, для гэтага арганізуюць бібліатэкі, распаўсюджваюць адпаведную літаратуру, робяць чытанкі і гутаркі, арганізуюць паляўнічыя куткі пры хатах-чытальнях, клюбах і іншых культасьветных установах;

ж) садзейнічаюць сваім членам у павялічэньні ведаў і спрактыкаванасьці іх у стралецкай і сабакаводнай справах, а таксама робяць захады да разьвіцьця самадзейнасьці і актыўнасьці паляўнічых па ўсіх пытаньнях, якія датычацца паляўнічых спраў і гаспадаркі;

з) садзейнічаюць органам паляўнічай каапэрацыі і сваім членам у справах: штогодняй перарэгістрацыі паляўнічых, нарыхтоўкі пушніны, грыбоў, мяса і сыравіны, дастаўленьня агняпрыпасаў і прыладаў паляваньня, а таксама выконваюць усе іншыя даручэньні органаў паляўнічай каапэрацыі;

і) вытвараюць прыём па заявах асоб у члены паляўнічай каапэрацыі, а таксама выключаюць з яе тых членаў, якія не выконваюць правіл паляваньня, або не адпавядаюць тым умовам, якія вымагаюцца ад кожнага члена Таварыства паляўнічых, згодна яго статуту.

## II. Склад паляўнічай ячэйкі

3. Ячэйкі паляўнічых на мясцох ствараюцца па ініцыятыве самых паляўнічых ці Раённага Таварыства, калі ў калгасе ці пасобнай вёсцы, або на фабрыцы ці заводзе маецца ня менш за 5 членаў паляўнічых.

У В А Г А: Калі лік членаў ужо існуючай ячэйкі часова паменшыцца да трох, дык ячэйка не распадаецца, а існуе да папаўненьня яе новымі членамі.

4. Усе члены ячэйкі зьяўляюцца членамі Тазарыства паляўнічых, маюць правы і павінны выконваць усе абавязкі, паказаныя ў статуце Таварыства.

5. Члены ячэйкі, якія ня выконваюць абавязкаў перад Таварыствам паляўнічых і сваёй ячэйкай, парушаюць статут Таварыства, або ня выконваюць яго патрабаваньняў ці сваёй ячэйкі (напрыклад, парушаюць правілы паляваньня, ня выконваюць захадаў па зьнішчэньні браканьерства, драпежнікаў, бадзячых сабак, ня прымаюць без уважлівых прычын удзелу ў аблавах і г. д.) могуць быць ячэйкай пазбаўлены права паляваньня на тэрмін ня больш за тры месяцы. Аб такім выключэньні паведамляецца Праўленьне Таварыства. У выпадку неабходнасьці выключэньня члена ячэйкі зусім са складу членаў Таварыства, ячэйка сваю пастанову аб гэтым з усімі доводамі накіроўвае на зацьвярджэньне Праўленьня Таварыства.

У В А Г А: Выключаны на тэрмін са складу Таварыства член яго пасьля сканчэньня гэтага тэрміну ўваходзіць у склад ячэйкі аўтаматычна.

У час выключэньня са складу ячэйкі выключаны член яе ня можа прымаць удзелу ў кіраваньні справамі ячэйкі праз агульны сход яго членаў, пазбаўляецца права паляваньня.

## III. Сродкі ячэйкі

6. Сродкі ячэйкі складаюцца: а) з асыгнаваньняў для іх Таварыстваў паляўнічых і б) з узносаў членаў ячэйкі, якія ўстаноўлены агульным сходам іх.

У В А Г А: Сродкі ячэйкі могуць складацца з грошай і маемасьці.

7. Узносы членаў ячэйкі паляўнічых могуць устанаўляцца толькі для здавальненьня пэўных агульных патрэб (набыцьця флажкоў або іншых прыладаў паляваньня) арганізацыі аблавы і інш.

## IV. Кіраўніцтва справамі ячэйкі

8. Кіраўніцтва справамі ячэйкі ўскладаецца на: а) агульны сход членаў ячэйкі і б) на Бюро яе.

### а) АГУЛЬНЫ СХОД

9. Усімі справамі ячэйкі кіруе агульны сход яе членаў, які склікаецца не радзей, як адзін раз у месяц.

10. Да кампэтэнцыі агульнага сходу апрача пытаньняў, пералічаных у п. 2 гэтага палажэньня належаць таксама наступныя пытаньні:

а) выбары членаў ячэйкі і адвод іх са складу Бюро,

б) устанаўленьне разьмеру і парадку ўзносаў членаў ячэйкі на пэўныя агульныя патрэбы (п. 6);

в) зацьвярджэньне справаздачы Бюро ячэйкі і яе Рэвізійнай Камісіі;

г) выбары дэлегатаў на сходы ўпаўнаважаных Таварystваў Паляўнічых і даваньне наказаў ім;

д) накладаньне пакараньняў на членаў ячэйкі;

е) разгляд пытаньняў, прапрацованых Праўленьнем Таварыства.

11. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі на ім будзе ня менш за палову ўсіх членаў ячэйкі.

Для вырашэньня пытаньняў, паказаных у п. 10 гэтага палажэньня, агульны сход лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае ня менш за $^2/_3$ усіх членаў ячэйкі.

12. Агульныя сходы склікаюцца Бюро ячэйкай, але яны таксама павінны быць скліка"ы па запатрабаваньні адной пятай часткі ўсіх членаў ячэйкі, або яе Рэвізійнай Камісіі ці Праўленьня Таварыства паляўнічых.

13. Аб месцы, часе і пытаньнях, пастаўленых на вырашэньне агульнага сходу, Бюро ячэйкі павінна паведаміць усіх яе членаў, а таксама і Праўленьне свайго Таварыства паляўнічых не пазьней як за тры дні да сходу.

14. Агульныя сходы для вядзеньня іх кожны раз выбіраюць Прэзыдыум, які кіруе работаю сходу і запісвае пратакол яго. Пратаколы агульных сходаў падпісваюцца старшынёю сходу і сакратаром. Пратакол агульнага сходу ў копіі перасылаецца Праўленьню Таварыства. Усе пытаньні на агульных сходах вырашаюцца простай большасьцю галасоў.

### б) БЮРО ЯЧЭЙКІ

15. Выканаўчым органам ячэйкі зьяўляецца яе Бюро, якое выбіраецца тэрмінам на адзін год са складу членаў ячэйкі.

16. Бюро выбіраецца ў складзе трох членаў, у тым ліку старшыні і сакратара Бюро. У ячэйках, якія маюць у сваім складзе ад 5 да 10 членаў замест Бюро выбіраецца старшыня ячэйкі, які і кіруе яе справамі паміж агульнымі сходамі членаў ячэйкі.

(Канец палажэньня аб ячэйках глядзі на трэцяй старонцы вокладкі).

№ 9

Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопісь „Белкахотсаюзу“

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

ЗЬМЕСТ



# Неадкладныя задачы.

Цэнтральны камітэт усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў зьвярнуўся ад 3 верасьня гэтага году з адозваю: „Да ўсіх партыйных, гаспадарчых, прафэсыйных і камсамольскіх арганізацый“. У гэтай адозьве ЦК сыгналізаваў, што выкананьне прамфінпляну другога году пяцігодкі стаіць пад ударам, што стварае пагрозу пасьпяховаму выкананьню праграмы сацыялістычнага будаўніцтва трэцяга году, пагражае выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

Партыя ў гэтай адозьве заклікала працоўных напружыць усе сілы на выкананьне прамфінпляну. Адозва Цэнтральнага камітэту партыі бязумоўна датычыцца і да паляўнічай каапэрацыі. Было-б вялікай памылкай думаць адваротнае, што паляўнічая каапэрацыя павінна стаяць у баку ад адозвы ЦК. Наша паляўнічая каапэрацыя можа і павінна ўсё магчымае зрабіць, каб прыняць актыўны ўдзел у рэалізацыі адозвы ЦК.

---

Краіна перажывае грашовую цяжкасьць, што бязумоўна можа адбіцца на сацыялістычным будаўніцтве, а таму і наша каапэрацыя павінна разгарнуць работу па мабілізацыі маючыхся сродкаў паляўнічых шляхам падпіскі на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“, калектыўнае хаваньне маючыхся аблігацый, збор задатку ў лік закупкі агнябояпрыладаў, спагнаньне розных відаў збораў у лік перарэгістрацыі паляўнічых на 1931 год, збор запазычанасьці і г. д. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўзмацненьне грашовага становішча ўноў арганізаваных раённых таварystваў шляхам дабраахвотных укладаў.

---

У вырашэньні мясной праблемы мы можам вельмі шмат чаго зрабіць. 15 кастрычніка пачынаецца паляваньне на зьвера. Таму неабходна зараз-жа разгарнуць растлумачальную працу сярод паляўнічых, мабілізаваўшы іх увагу на садзейнічаньні паляўнічай каапэрацыі ў вырашэньні мясной праблемы шляхам павялічэньня здабычы дазволенага да адстрэлу зьвера і птахі і здачы мяса выключна каапэрацыі для задавальненьня патрэб рабочых раёнаў. Месцы—раённыя т-вы павінны зараз-жа заключыць умовы з каапэрацыяй на здачу гэтага мяса.

Адным з канкрэтных мерапрыемстваў у гэтым напрамку павінна зьявіцца арганізацыя ня менш аднаго трусятніка ў кожным раёне і калектыўная арганізацыя трусятнікаў пры паляўнічых ячэйках—калгасах і саўгасах, фабрык і заводаў, а таксама аб'яднаньне паасобных паляўнічых-трусаводаў для калектыўнага трусаводзтва. Паляўнічыя фабрык і заводаў павінны быць ініцыятарамі ў гэтай рабоце.

Каб правесьці гэтае мерапрыемства ў жыцьцё, неабходна зараз-жа прыступіць да контрактацыі маючыхся трусоў.

Другой ня менш важнай задачай у вырашэньні харчовай праблемы зьяўляецца нарыхтоўка грыбоў. Урадам на нашу каапэрацыю ўскладзена задача нарыхтаваць 32 з паловаю тон сушаных грыбоў. Аднак, на мясцох важнасьць гэтай работы ня ўлічылі і дырэктыва гэта яшчэ ня выканана.

---

Вось тыя чарговыя неадкладныя задачы, якія стаяць перад нашай паляўнічай каапэрацыяй у зьвязку з адозвай ЦК. Выканаць гэта мы зможам пры ўмове, калі паляўнічыя арганізацыі на мясцох—ячэйкі, раённыя праўленьні і гарадзкія таварыствы зараз-жа перабудуюць сваю працу, наблізяць яе да калгасаў, саўгасаў, вёсак, прадпрыемстваў і кожнага паасобнага паляўнічага.

Ударным парадкам, замест існуючых зараз у большасьці сваім на паперы, сельскіх паляўнічых ячэек, павінны быць арганізаваны паляўнічыя ячэйкі пры саўгасах і калгасах, прадпрыемствах, установах, буйных вёсках, мястэчках і гарадох для аб'яднаньня і неарганізаваных паляўнічых.

Разгарнуўшы бальшавіцкую самакрытыку, мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, мабілізаваўшы ўсю паляўнічую масу, возьмемся за вырашэньне гэтых задач.

# У бой за выкананьне плянаў

У гэтым годзе „Белкохотсоюз“ вышаў на загатоўку пушніны разгорнутым фронтам. Упяршыню раённыя арганізацыі паляўнічай каапэрацыі пачнуць самастойна загатаўляць пушніну. Калі раней акруговыя базы былі фільтрам для раёнаў, дык сёлета такіх фільтраў ня будзе. Таму раённым зьвеньням нашай каапэрацыі неабходна падыйсьці да загатовак пушніны з усёй сур'ёзнасьцю і з вялікай уважлівасьцю.

Перш за ўсё неабходна заўважыць, што ў гэтым годзе ўдзельная вага „Белкохотсоюза“ ў загатоўках павялічана плянам Наркамгандлю. Мы павінны сёлета загатовіць 50 процантаў усёй пушніны, якая загатаўляецца па БССР. Калі ў мінулым годзе мы загатовілі толькі 39 процантаў, то ў гэтым годзе наша праца павінна быць больш інтэнсыўна, павінна ахапіць усё насельніцтва, якое дабывае пушніну.

Другое—мы павінны так арганізаваць працу, каб у загатоўках пушніны актыўна ўдзельнічалі ўсе паляўнічыя. Нельга спадзявацца толькі на праўленьні ды бюро. Неабходна шляхам арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, давядзеньня плянаў да нізавой ячэйкі і нават паасобнага паляўнічага, прыцягнуць да загатовак пушніны ўсю паляўнічую масу.

Трэцяе—мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на другарадны від пушніны (крот, вадзяны пацук, звычайны пацук і г. д.). Гэты від пушніны займае вялікі процант у агульным пляне загатовак пушніны і таму паляўнічай каапэрацыі неабходна правесьці належную працу сярод ня членаў нашай каапэрацыі з тым, каб уцягнуць іх у працу здабычы гэтай пушніны і здачу яе ў нашу каапэрацыю.

Трэба яшчэ мець на ўвазе, што добрая загатоўка пушніны залежыць ня толькі ад колькасьці здадзенай пушніны, але ад яе якасьці. Якасьць загатоўленай пушніны будзе паказальнікам нашай працы.

Сёлета нам трэба загатовіць пушніны, як я казаў раней, больш, чым у мінулым годзе, гэта значыць, што кожны раён павінен павялічыць свае загатоўкі амаль у два разы, чым летась. Пляны складзены зусім рэальныя і павінны быць выкананы. Трэба толькі памятаць, што ў мінулым годзе мы дрэнна працавалі, дрэнна была пастаўлена арганізацыйная работа, ня было аслабанёных загатаўшчыкаў на раёне і амаль зусім не загатаўлялася другарадная пушніна. На гэта неабходна зьвярнуць увагу сёлета і да загатовак пушніны падрыхтавацца.

Асаблівую ўвагу неабходна ўдзяліць якасьці пушніны. Вядома, што дрэнная зьнятая скурка менш каштоўна, чым добра зьнятая. Што вавёрка мяздравая больш каштоўна, чым валасяная, што крот пласьцінчаты больш каштоўны за кулькавы і г. д. Таксама вядома, што зьвер, забіты ў лістападзе, сьнежні, студзені дае больш каштоўную пушніну, чым забіты ў кастрычніку ці лютым. З гэтага ўсім паляўнічым неабходна зрабіць належны вывад. Трэба так апрацаваць пушніну, каб яна была першагатунковай. Як гэта зрабіць, можна дасканала пазнаць з кнігі Квяткоўскага і Федасеева „Як здымаць скуркі з пушных зьвяроў“. Гэта кніга ёсьць ва ўсіх раённых таварыствах і павінна быць у большасьці паляўнічых, бо рассылалася бясплатным дадаткам да часопісу. Неабходна толькі яшчэ раз больш уважліва прачытаць яе і рабіць так, як у ёй раіцца.

Апошняе, аб чым трэба ведаць паляўнічым—гэта здабыча другараднага віду пушніны, асабліва крата і пацука. Гэтай справай мы раней мала цікавіліся. Мы казалі: „Паляўнічы павінен адстрэльваць; ня праца паляўнічага здабываць крата і пацука“. Бяззмоўна, гэта няверна. Паляваньнем зьяўляецца ня толькі здабыча зьвера з стрэльбай, але і іншымі дазволенымі спосабамі і прыладамі. Гэта, па-першае. А па-другое—промысел, які дае карысьць. Зараз, калі нам неабходна павялічыць экспорт пушніны, а таксама даць хутру для краіны, здабыча другараднай пушніны зьяўляецца вельмі карысным як для дзяржавы, так і для самаго паляўнічага і яе неабходна нарыхтаваць, як мага больш.

Галоўнае ў загатоўках—гэта ўдзел саміх паляўнічых. Калі мы так паставім працу, што кожны паляўнічы будзе адказны за загатоўку, калі кожны паляўнічы будзе загатаўляць пушніну, калі ўсе паляўнічыя будуць ахоплены гэтай працай, тады мы вытрымаем экзамен на самастойную працу. Сацспаборніцтва, ударніцтва, крытыка і самакрытыка дапамогуць нам у гэтым.

**Сьмірноў.**

# Хто павінен кіраваць паляўнічай гаспадаркай

Нечага паўтараць сказанага ўжо ня раз, што паляўнічая гаспадарка ў момант сацыялістычнай перабудовы нашай краіны паскоранымі тэмпамі набывае вялізарнае значэньне. Паляўнічая гаспадарка дае экспартны тавар, за які мы купляем у буржуазных краінах машыны для сваіх заводаў. Адно ўжо гэта гаворыць за тое, што на яе павінна быць зьвернута асаблівая ўвага. Трэба яшчэ сказаць, што ад паляваньня пралетарыят гораду атрымлівае, апроч скуркі для экспарту і мяса.

Ня гледзячы на ўсё гэта, паляўнічай гаспадаркай яшчэ дрэнна цікавяцца.

Зусім нядаўна НКЗ увёў у штат паляўнічазнаўца. Усё-ж кіраўніцтва з боку НКЗ было недастатковае. Зараз кіраўніцтва лясамі ад НКЗ адышло да ВСНГ у аб'яднаньне лясной прамысловасьці. У штат гэтага аб'яднаньня таксама ўведзен толькі адзін паляўнічазнаўца.

Лясное кіраўніцтва ВСНГ дае напрамак паляўнічай гаспадарцы: зацьвярджае заказьнікі, паляўнічыя гаспадаркі; устанаўляе тэрміны і правілы паляваньня, а „Белкохотсоюз“ зьяўляецца выканаўцам гэтага. „Белкохотсаюз“, з свайго боку, выпрацоўвае розныя мерапрыемствы, накіраваныя на палепшаньне паляўнічай гаспадаркі. Паміж лясным аб'яднаньнем ВСНГ і „Белкохотсоюзом“ вялікіх разыходжаньняў няма, але бываюць прынцыповыя разыходжаньні, як, напрыклад, аб сыстэме вядзеньня паляўнічай гаспадаркі. Праўда, лясное аб'яднаньне і „Белкохотсоюз“ могуць дагаварыцца, тым больш, што ўсе мерапрыемствы

раней абгаварваюцца ў паляўнічых сэкцыях; апроч таго, у гэтых дзьвюх установах сядзяць паляўнічыя практыкі.

От, іншая справа з НКГандлем. Апошні кіруе пушнымі нарыхтоўкамі і з вышыні „п'едэстала“ дыктуе свае правы. На жаль, мерапрыемствы НКГандлю накіраваны зусім не на палепшаньне паляўнічай гаспадаркі. У НКГандлю падыход іншы—даёш пушніну і знаць ня знаю. Дзе расьце гэта пушніна, як яе здабыць і калі лепш здабыць: НКГандлю знаць ня знае і ведаць ня ведае.

НКГандлю думае, што пушніна расьце на вярбе. Хай будзе вядома, што нават ігрушы і тыя не растуць на вярбе. Для таго, каб мець пушніну—трэба мець зьвера, з якога яе можна садраць. А для гэтага трэба вырасьціць зьвера, ды мала таго, трэба яшчэ ведаць, калі забіць зьвера, каб пушніна была добраякаснай. А тут НКГандлю патрабуе больш пушніны! Яго ня цікавіць якасьць яе. Аб гэтым сьведчаць пляны нарыхтовак на 1930-31 г. і тое, што НКГандлю дабіваецца зьмены тэрмінаў паляваньня і прапануе такія тэрміны адстрэлу зьвера, супроць якіх выказаліся ня толькі лесааб'яднаньне і „Белкохотсоюз“, але і ўсе нарыхтоўшчыкі пушніны разам з дзяржбракерам. Тут яшчэ ня ўсё.

Пры НКГандлю СССР арганізаваны Пушнасындыкат. Упаўнаважаным пушнасындыкату ў БССР зьяўляецца Белдзяржгандаль, які таксама прэтэндуе на кіруючую ролю паляўнічай гаспадаркай. Добра, што Белдзяржгандаль зусім нядаўна стаў упаўнаважаным і мы яшчэ ня ведаем ва што выльлюцца яго прэтэнзіі, але ёсьць зусім сьвядомыя апасеньні, што ад гэтага наўрад ці лепш стане паляўнічай гаспадарцы.

Такім чынам, кіраўнікоў паляўнічай гаспадаркай шмат, а гаспадара—сапраўднага гаспадара!—ніводнага. Ад гэтага церпіць паляўнічая гаспадарка.

Выхад адзін—трэба ўсіх гэтых кіраўнікоў аб'яднаць, або арганізаваць у адну ўстанову, скажам, Белпушніну, якая будзе будаваць, апроч усяго іншага, і паляўнічую гаспадарку. Некалькі месяцаў назад такая думка была нарадзілася ў НКГандлю і афармілася ў спэцпастанову, але відаць захварэла і зноў памерла. Праўда, яна нарадзілася ня зусім „законна“, бо аб'яднаньне паляўнічай гаспадаркі з шчацінай няўдалае! Калі нямэтазгодна арганізаваць беларускае кіраўніцтва паляўнічай гаспадаркі ў асобны трэст, тады трэба перадаць усе паляўнічыя справы аднэй арганізацыі—„у сямі нянек дзіця бяз носу“.

С—ў.

## Паляўнічаму патрэбен добры сабака

Патрэбнасьць у кроўным сабачым матэрыяле, асабліва пароды ганчакоў, адчуваецца сярод паляўнічых вельмі востра. Для задавальненьня патрэбнасьцяй паляўнічых на пародны матэрыял, „Белкохотсоюз“ у свой час узяўся за разьвядзеньне кроўных ганчакоў праз арганізацыю гадавальнікаў сабак. Але, панёсшы ад гэтага страты, адмовіўся ад гэтага мэтаду і ліквідаваў свой гадавальнік. Матэрыял, які застаўся, быў разьмеркаваны паміж акруг.

Віцебскае таварыства паляўнічых парашыла арганізаваць свой гадавальнік і паказаць „Белкохотсоюзу“ карысьць гадавальніку. Але колькі ні стараліся паляўнічыя даказаць праўленьню, што ад гадавальніку ніякай карысьці ня будзе, акрамя страт, кіраўнікі праўленьня, пад уплывам інструктара, нават і слухаць ня хочуць аб гэтым. У выніку тая-ж карысьць, што ў „Белкохотсоюзе“. На сёнешні дзень, з прычыны безгаспадарчых адносін з боку загадчыка гадавальнікам, які ўвесь час штурхаў праўленьне аб павялічэньні яму пэнсіі, не займаўся даглядам за даручанай яму жывёлай, добрая палова сабак гадавальніку загінула ад усялякіх хвароб.

Апрача гэтага, нямэтазгоднасьць разьвядзеньня кроўных сабак праз гадавальнік тлумачыцца яшчэ і тым, што гандлёвы кошт шчанюка з гадавальніку не па кішэні вясковаму паляўнічаму, для якога, галоўным чынам, патрэбны кроўныя ганчакі.

У часопісу № 7 „Паляўнічы Беларусі“ т. Зарын прапануе ў якасьці мэтаду звароту страт па гадавальніку ад пагібелі жывёлы—страхаваць апошнюю. Такі мэтад таварыству карысны, але калі па безгаспадарчасьці загадчыка гадавальніку будзе гінуць маемасьць, дык гэта будзе адбівацца на грашовай народнай крыніцы.

Па думцы паляўнічых, лепшым мэтадам здавальненьня паляўнічых кроўнымі ганчакамі зьяўляецца перадача маючыхся сабак асобным паляўнічым на ўмовах контрактацыі, што будзе спрыяць таннейшаму распаўсюджаньню шчанюкоў сярод паляўнічых бяз страт з боку самай арганізацыі, а самыя вытворцы, якія знаходзяцца ў паляўнічага ў рабоце, змогуць разьвіваць свае прыродныя якасьці і ня будуць абарачвацца ў лежабокаў.

У Белагоеўскім таварыстве паляўнічых (Ленінградзкая вобласьць) існуе такі парадак: сэкцыя кроўнай сабакагадоўлі, па заяве паляўнічага, набывае яму кроўнага сабаку, у большасьці выжлоўку, каштоўнасьць якога паляўнічы павінен зьвярнуць сэкцыі шчанюкамі ня звыш 10 р. за шчанюка. Атрымліваемых шчанкоў сэкцыя зноў разьмяркоўвае сярод новых паляўнічых па гэтай жа цане і, такім чынам, бяз страт і рызыкі дасягаецца мэта ў галіне разьвіцьця кроўнай сабакагадоўлі.

Кошка М.

**Мы павінны выканаць кантрольныя лічбы па пушных загатоўках і дагавор на пастаўку мяса дзічы ў сталоўкі ЦРК.**

**Кожны паляўнічы павінен здаваць пушніну толькі ў сваю капэрацыю, дзіч толькі ў крамы і сталоўкі ЦРК.**

# За якасьць і колькасьць пушніны

## Памятка паляўнічаму

**Каб палепшыць якасьць пушніны, неабходна яе добра апрацаваць.**

Добрая апрацоўка заключаецца ў правільнай здымцы скуркі, поўным абястлушчваньні, належнай выпраўцы і прасушцы.

**Барсук** здымаецца „дыванам“, распароўшы скурку

**Заяц** здымаецца з азадку панчохай і правіцца на калодцы. Здаецца поўсьцю ў сярэдзіну (мал. 5).

**Куніца** здымаецца з азадку панчохай і правіцца на калодцы. Галоўка распраўляецца, лапкі і хвост ачышчаюцца ад костак і пакідаюцца пры скурцы. Здаецца поўсьцю наверх.




Мал. 5.





Мал. 2.




Мал. 4.

на жываце. Пасьля гэтага скурка абястлушчваецца і для прасушкі нацягваецца на шчыт. Скуркі барсука пры адпраўцы складаюцца поўсьць да поўсьці. Паміж мяздры кладзецца салома (мал. 1).

**Вавёрка** здымаецца з азадку, а не з галавы, поўсьцю ў сярэдзіну. У такім выглядзе яна і здаецца ў каапэрацыю. Выпраўляецца скурка на спэцыяльнай правілцы, а не набіваецца саломай або попелам, як гэта звычайна робіцца. Лапкі ачышчаюцца ад костачак і пакідаюцца пры скурцы. Хвост вылузваецца. Мяздровая вавёрка больш каштоўная, чым валасяная (мал. 2).

**Воўк** здымаецца з агузку панчохай, добра ачышчаецца ад мяздры і прасушваецца. Здаецца ў каапэрацыю поўсьцю наверх. Хвост, лапы і галава ачышчаюцца ад костачак і пакідаюцца пры скуры. (мал. 3).

**Гарнастай**—здымаецца з азадку. Сушыцца і правіцца на спэцыяльнай правільцы, поўсьцю ў сярэдзіну і ў такім выглядзе здаецца (мал. 4).

**Ласка** здымаецца панчохай з галавы, сушыцца і правіцца на правілках. Здаецца поўсьцю ў сярэдзіну.

**Ліс** здымаецца з азадку і добра абястлушчваецца, асабліва каля азадку. Правіцца на правілцы. Лапы сушацца не панчохай, а распластаўшы. Хвост ачышчаецца ад костак. Здаецца поўсьцю наверх. (мал. 6).

**Норка** здымаецца з азадку і абястлушчваецца. Сушыцца на правілцы, добра распраўляюцца лапкі і хвост. Здаецца поўсьцю наверх (мал. 7).

**Рысь** здымаецца з азадку, правіцца на правілцы, добра расправіўшы лапкі, асабліва задния. Здаецца поўсьцю наверх (мал. 8).

**Тхор** здымаецца з азадку. Зараз-жа пасьля здымкі прасушваецца на правілцы. Лапкі і хвост пакідаюцца пры скурцы. Здаецца поўсьцю наверх (мал. 9).

**Крот** здымаецца „дыванам“, распароўшы скурку на жываце. Сушыцца на дошцы.

# Новыя віды зьвяроў

У сувязі з недахопам пушніны і мехавой сыравіны для нашай дробна-апрацоўчай прамысловасьці, дзяржаўныя органы зьвярнулі асаблівую ўвагу на вывучэньне другарадных відаў пушніны, іх загатоўку і выпрацоўку. У выніку доўгага часу работы былі выяўлены зусім новыя віды зьвяроў, якія да гэтага часу нідзе не загатаўляліся. Пры вывучэньні пытаньня іх загатоўкі і апрацоўкі аказалася, што ў СССР ёсьць аграмадныя магчымасьці загатовіць гэтыя новыя віды зьвяроў, якія пры перапрацоўцы даюць надта каштоўны мехавы тавар.

Па довадах Усесаюзнага пушнога сындыкату ў Беларусі ёсьць наступныя віды зьвяркоў, якія да гэтага часу намі не загатаўляліся, але ў той час яны зьяўляюцца каштоўным матэрыялам для нашай мехавой прамысловасьці і ня толькі для ўнутранага рынку, але маюць вялікую каштоўнасьць і для экспорту.

**Соня-Полчак**. Па свайму памеру яна падобна на вялікую мыш, мае вельмі прыгожы колер меху, мех высокі і шчыльны, з густым пухам і доўгаю пругкаю осьцю (20-24 мм.), акраска сьпіны шэрая з рыжавата-бурым адценкам. Жыве ў лясох каля чалавечага жыльля, дзе шмат фруктовых садоў. Харчуецца больш усяго фруктамі і другімі пладамі. Гнёзды робяць у дуплох дрэва, зарываючыся ў труху і сухія лісьце.

У сьнежні, або ў пачатку студзеня зьвярок залягае ў сьпячку і прачынаецца толькі ў канцы мая. Загатоўка яго можа вытварацца толькі ўвосень і ў чэрвені Лепшым мэтадам лоўлі зьяўляецца пабудова самых простых лавушак, зьбітых з невялічкай скрынкі накшталт лавушкі для харка або пацукоў. Лавушкі гэтыя ставяцца на галінах дрэў і даюць вельмі добрыя вынікі.

**Мядзьведка-цокар**. (Існуюць мясцовыя назвы „землярэйка" ці „крот шэры"). Селіцца мядзьведка-цокар галоўным чынам у мясьцовасьцях з мяккім пескавым грунтам, абмінае стэпы і пахаці. Больш усяго распаўсюджваецца ў лясістых мясцовасьцях і гародах, дзе находзіць сабе больш харчоў. Жыве ў нары таксама, як і крот. Зімою знаходзіцца нават пад сьнегам, чаму яго здабыча можа адбывацца вясною, увосень і нават узімку, дзе дазваляюць умовы дробнага сьнегападу. Загатоўкі могуць вытварацца вясною і позьняй восеньню, калі мех яго бывае поўнакаштоўным.

Скуркі бываюць двух колераў—прыгожы густы, высокі мех шэрага колеру з буравата-м адценкам. Другі колер па пушыстасьці такі самы, але па колеру ў шмат разоў сьвятлейшы, робячы скурку надта падобкай на звычайную шэншылу. Гэтыя сьветлыя экзэмпляры ня красяцца і ідуць у продаж у натуральным відзе. Па сваёй велічыні скурка мядзьведкі-цокара крыху больш белкі-лецягі, але значна шчыльней мяздра, волас надта падобны, але шчыльнейшы і прыгажэйшы.

**Сьляпыш**. Надта падобны на мядзьведку-цокар. Зьвярок гэты селіцца галоўным чынам на ўраджайных палёх, а таксама і гародах. Харчуецца моркаю, сьвёклаю, бульбаю і другімі караньплодамі. Ён зьяўляецца вялікім шкоднікам караньплодаў і гародных расьлін.

Па якасьці шэрсьці ён падобен на мядзьведку-цокара, але мае больш чырвонаватага адценку, жыве таксама ў норах, як і мядзьведка-цокар.

Апісваючы гэтыя новыя і асабліва каштоўныя віды пушніны, трэба, каб раённыя таварыствы паляўнічых, а таксама і асобныя паляўнічыя зьвярнулі на гэта пільную ўвагу і прыступілі як мага хутчэй да выяўленьня гэтых зьвяркоў і загатоўкі іх.

**В. Даńькоў**.



Мал. 3



Мал. 9



Мал. 1





Мал. 6



Мал. 7

**Для таго, каб выканаць пляны па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі, па зьверагадоўлі і павялічыць колькасьць здабываемай паляўнічымі пушніны—неабходна, як мага хутчэй, скончыць пабудову апарату паляўнічай каапэрацыі і ўсю яго работу падпарадкаваць гэтым задачам.**

# Пушная зьверагадоўля

Пушная зьверагадоўля—новая галіна жывёлагадоўлі ў паляўнічай гаспадарцы, якая мае сваёй мэтай прамысловае разьвядзеньне на мех каштоўных пушных зьвяроў у клетках або на вострывах, якія абкружаны незамярзаючым морам.

Калі вольная зьверагадоўля ўяўляе сабою інтэнсыўную і рацыянальную форму паляўнічага пушнога промыслу, асобную форму правільнай паляўнічай гаспадаркі, то клетачная або на марскіх вастравох пушная зьверагадоўля па сваіх тэхнічных прыёмах набліжаецца да сельскай жывёлагадоўлі і сучасную клетачную зьверагадоўлю можна разглядаць, як новы від дробнага сельскагаспадарчага жывёлаводзтва.

Тэхніка клетачнай пушной жывёлагадоўлі ў асноўным зводзіцца да наступнага. Аб'ектамі пушной зьверагадоўлі служаць такія зьверы, як чорныя, срэбна-чорныя і чорнабурыя лісіцы, сівадушкі, блакітныя і белыя пясцы, норкі, еноты, скунсы, куніцы, за апошні час собалі.

Зьвяроў памяшчаюць парамі ў клеткі з драцянай ацынкаванай сеткі, бакавыя сьценкі апушчаюцца ў зямлю для папярэджаньня падкопу і пабегу зьвяроў Зьверху робіцца з сеткі навес-загіб у сярэдзіну клеткі, або робіцца сетчатая столь.

Памер клеткі для пары лісіц каля 10×10 мэтраў пры вышыні каля 2,8 мэтра, а для пары норак—каля 1,5×2,0 мэтра, пры вышыні ў 1,0—1,2 мэтра Зьвяры зьмяшчаюцца парамі перад зімою, а самец пасьля злучкі адсажваецца ад самкі ў асобную клетку, або ў агульны выгул.

Апрача сыстэмы парнай клетачнай пушной зьверагадоўлі ужываецца сыстэма „оптавай“ клетачнай пушной зьверагадоўлі, для разьвядзеньня андатры амэрыканскай буйнай балотнай мышы, вядомай ў СССР пад гандлёваю назваю „амэрыканскай выхухолі“, якая дае прыгожую імітацыю марскога коціка. Зьверы жывуць, галоўным чынам, за кошт мясцовага корму.

Пры „востраўнай сыстэме“ пушной зьверагадоўлі агарожа замяняецца незамярзаючым морам. За мяжой гэта сыстэма атрымала асабліва пашырэньне на Аляскінскіх вастравох, а ў нас удала прыстасоўваецца на востравох Кільдзіне, Салавецкіх, Камандорскіх, Шантарскіх, Карагінскім і інш.

Сыстэма „вольнай зьверагадоўлі“ атрымала найбольшае прыстасаваньне да андатры, якая спачатку была ўдала акліматызавана ў СССР на Салаўках, а пасьля была выпушчана на волю пад Архангельскам на Табольскім паўночы, Тураханскім краю на Карагінскім востраве.

Арганізатарам пушной зьверагадоўлі ў Паўноч. Амэр. Злуч. Штатах і Канадзе быў фэрмэр з Паўночнай Канады Чарльз Дальтон. У выніку яго шматгадовых досьледаў пушная зьверагадоўля перад самай вайною зрабілася ўжо камэрцыйным заняткам і надта прыбыткоўвым, так як цэны за скуры дамарошчаных срэбна-чорных лісіц даходзілі да 5-6 тысяч рублёў за штуку.

Па водзывах амэрыканскага дэпартамэнту землеробства, пушная зьверагадоўля найбольш выгадная галіна сельскагаспадарчай жывёлагадоўлі. вядома, ва ўмелых руках.

Агульны лік зьвяроў у канадзкіх выхавальніках 258 тысяч 373 штукі, у тым ліку срэбна-чорных лісіц 71 тысяча 329 штук. Андатры—168 тысяч 861 штука, норак—5 тысяч 28. Агульны лік выхавальнікаў—4 тысячы 376.

З Канады пушная зьверагадоўля перайшла ў Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты і цяпер па сваіх памерах ужо перавышае канадзкія на 10—25 проц. У Заходняй Эўропе найбольшага разьвіцьця пушная зьверагадоўля атрымала ў Нарвегіі, дзе ў 1930 годзе ёсьць каля 20 тысяч штук каштоўных лісіц. За ёю ідзе Нямеччына. Зьверагадоўляй займаецца таксама і Францыя, Аўстрыя, Швэцыя, Фінляндыя, Эстонія і другія краіны.

Пушная зьверагадоўля ў СССР існавала ў выглядзе надта дробных і нешматлікіх (каля 16) зьверавыхавальнікаў і да вайны. Пасьля яе каля 1925—26 году на пушную зьверагадоўлю зьвяртаюць увагу і ўзьнікаюць выхавальнікі пад Ленінградам, на Салаўкох падтрымліваецца пасьля вайны Іркуцкі і другія.

Агульны лік зьверавыхавальнікаў у СССР у 1930 годзе раўнаецца. па няпоўных даных, 12—15. Агульны лік зьвяроў у гэтых выхавальніках к канцу 1930 году налічаецца прыблізна ў 2.500—3.000 штук (разам з прыплодамі).

У сучасны момант галоўная ўвага накіравана на разьвядзеньне срэбна-чорных лісіц, а ў будучым—собалей. Кіруючую ролю ў зьверагадоўлі адыйгрывае Дзяржгандаль, далёка адстае ад яго „Всекохотсоюз“.

Пакуль што ствараюцца выхавальнікі-размножнікі буйнага памеру, у якіх асноўны племянны матэрыял—прывазны з Нямеччыны і Амэрыкі.

Прычынай слабай пастаноўкі пушной зьверагадоўлі ў СССР зьяўляецца адсутнасьць сувязі шырокіх прамысловых паляўнічых мас са зьверагадоўчай работай. Няма яшчэ паказальных зьверавыхавальнікаў у прамысловых раёнах і няма намечаных каапэрацыйных зьверавыхавальнікаў, арганізуемых сіламі мясцовых паляўнічых арцеляй і калектываў саюзу паляўнічых. Няма пакуль арганізаванага і ільготнага крэдыту драцянай сеткай і племяннымі вытворцамі з боку існуючых зьверавыхавальнікаў. Прыцягненьне паляўнічага насельніцтва да пушной зьверагадоўлі будзе чарговай фазай разьвіцьця пушной зьверагадоўлі ў СССР.

Спрыяючыя кліматычныя ўмовы, наяўнасьць мясцовага каштоўнага племяннога матэрыялу, існуючая зацікаўленасьць з боку паляўнічага насельніцтва да праблемы пушной зьверагадоўлі і маючыйся ўжо вопыт упаўне забясьпечваюць СССР разьвіцьцё яго ў будучым. Адначасова ўдасканальваюцца планавыя заданьні зьверагадоўлі і выяўляюцца яе рэальныя гаспадарчыя магчымасьці.

Былая аматарская зьверагадоўля зараз адпадае і ў зьверагадоўлі бачаць самастойную галіну, якая дапаўняе мерапрыемствы па паляўнічай гаспадарцы і мае шырокую будучыню.

Праф. **Ул. Генерозаў.**



Сям'я.

# С к у н с

За апошнія гады высокія цэны на мех скунса зацікавілі гэтай жывёлай і зараз у шмат якіх выхавальніках Амэрыкі займаюцца прамысловым разьвядзеньнем скунсаў.

Скунс менш дзікі, чым другія дзікія жывёлы і ня такі пераборлівы да харчоў, як лісіца, куніца і норка. На волі скунс галоўным чынам харчуецца мошкамі, але інагды есьць і дробных грызуноў і невялічкія фрукты. Пабудова памяшканьня для скунса таксама не зьяўляецца цяжкай задачай.

Галоўным папярэджаньнем проці скунса зьяўляецца яго характэрны пах. Дрэнна пахучая вадкасьць, якая вылучаецца яго жалёзамі, служыць найлепшым сродкам абароны. Ён выкідае яе з двух маленькіх трубачак, якія злучаны жалёзамі. Трубачкі з вадкасьцю знаходзяцца на абодвых баках задняга праходу.

## Біолёгічнае апісаньне скунса

Ніводны пушны зьвер не карыстаецца такой вялікай вядомасьцю ў Амэрыцы, як скунс і ў той-жа час на яго мех надта малы попыт. З прычыны таго, што скунс зьнішчае шкоднікаў сельскай гаспадаркі, у шмат якіх штатах ён знаходзіцца падаховаю паляўнічых законаў.



Звычайны буйны скунс сустракаецца выключна ў Паўночнай Амэрыцы. Скунсы паўночнай паласы адрозьніваюцца лепшым мехам але звычайна ў гандлю меха сартыруюцца па колькасьці белага колеру ў чорным меху скунса.

Скунсы большай часткаю сустракаюцца ў мясцовасьцях дзе ёсьць лясы і палі. Напрыклад, у нізінах і каля фэрмаў.Назіралася, што скунсы пераплываюць рэчкі. Скунсы не баяцца чалавека і ня рэдка наведваюць яго будынкі. Для свайго жыцьця яны займаюць закрытыя памяшканьні, норы, скляпы, пустыя дрэвы і ямы. З травы і лісьця будуюць сабе гнёзды, у якія самка прыносіць памёт у красавіку або маі ад 4 да 10 дзяцей.

У паўночных частках, у халодныя зімніе надвор'е 2—3 м-цы яны праводзяць у сьпячцы.

Мяса скунсаў зьяўляецца лепшаю харчою некаторых плямён канадзкіх індыйцаў і нават прыходзіцца па смаку для белых. Нядаўна некалькі партый мяса скунса было накіравана ў Эўропу.

## Выбар месца для гадавальніка скунса

Для клетак выбіраецца месца з добрым дрэнажам і часткаю, закрытаю дрэвамі. Прысутнасьць чалавека скунсаў ня трывожыць. Усякае месца каля фэрмаў можа падыйсьці да разьвядзеньня скунсаў.

## Клеткі і хаткі

Для кожнай самкі неабходна пабудаваць хатку з гнездавой скрынкаю, у якой яна выкармлівае сваіх дзяцей. Клетка ў 12 футаў даўжыні, 4 футы шырыні і ў 2 шырыні будзе ўпаўне дастатковай. На версе клеткі робяцца дзьверы для падачы харчаў у хатку. Усе клеткі трэба абвесьці плотам дастатковай вышыні, каб абараніць скунсаў ад нападу сабак і рознай бадзячай жывёлы. Плошча ў адну трэцюю частку гэктара ўпаўне дастаткова для зьмяшчэньня вялікай колькасьці скунсаў.

## Разьвядзеньне

Скунсы—жывёла палігамная і памёт у яе бывае адзін раз у год. Аднаго самца досыць для 5 самак. Злуч а адбываецца ў лютым і сакавіку месяцах і на гэты час самца зьмяшчаюць разам з самкамі. Пэрыяд цяжарнасьці працягваецца 9 тыдняў.

Дзеці на сьвет зьяўляюцца сьляпымі і амаль голымі, але яны шпарка растуць і аднімаюцца ад грудзей ва ўзросьце 2 месяцаў. Пасьля адлучкі іх садзяць у асобнае памяшканьне, якое вызначана для маладняку, прычым трэба пазбавіцца перапаўненьня памяшканьня, бо інакай будуць страты.

Для разьвядзеньня на племя трэба адбіраць толькі буйных чорных скунсаў з невялікай белай плямаю на галаве. Уважлівы адбор дае магчымасьць паступова палепшыць якасьць меха, а праз 3—4 пакаленьні магчыма будзе атрымаць племя скунсаў, мех якіх будзе самай лепшай якасьці.

## Кармленьне скунсаў

Скунсы ў няволі ядуць самы рознастойны харч, уключаючы ў яе мяса, рыбу, мошак, хлеб, вараную або сырую гародніну, сьпелыя плады. Скунсы з вялікай ахвотай ядуць гатаванае мяса, чым сырое. Скунсу патрэбна амаль такая колькасьць харчоў, як і лісіцы. Карміць іх патрэбна раз або два разы ў дзень і калі адзін раз, дык вечарам. Самак з дзяцьмі кормяць два разы ў дзень. Вада для піцьця павінна быць сьвежая. Усе кармушкі і паілкі павінны быць чыстымі.

## Зьнішчэньне пахучых жалёз

Будучы зьмешчаны ў клетку і абаронены ад сабак, скунсы ня робяць ніякіх няпрыемнасьцяй сваім суседзям. Хоць зьнішчэньне пахучых жалёз не зьяўляецца крайняй неабходнасьцю для жывёлы, якая разводзіцца для меха, але разумная перасьцярога кажа за зьнішчэньне гэтых жалёз, бяз іх са скунсамі куды лягчэй мець справу.

Зьнішчэньне жалёз некалькі небясьпечна для дарослых скунсаў, але ў дзяцей яна праходзіць лёгка. Самы лепшы час для гэтай апэрацыі, калі скунсу міне 4—5 тыдняў.

## Дагляд за скунсамі

Калі ў невялічкай клетцы зьбярэцца шмат скунсаў, дык яны пачынаюць грызьціся і грызьня іх можа дайсьці да самагубства. Самцоў трэба трымаць асобна, выключаючы толькі злучны пэрыяд. Самкі таксама павінны мець асобныя клеткі і хаткі, у якіх яны будуць выводзіць сваіх дзяцей. Клеткі, хаткі, кармушкі, паілкі, павінны заўсёды ўтрымоўвацца ў чыстаце.

Скунсаў лягчэй разводзіць у няволі і пры ўмелым доглядзе яны могуць стаць крыніцай даходу, хаця да гэтага часу тыя, хто меў даход ад скунсаў, прадавалі іх галоўным чынам на племя.

Ва ўмовах Амэрыкі, дзе праца аплачваецца надта высока, а попыт на мех скунса з боку насельніцтва вельмі абмежаваны, разьвядзеньне гэтага пушнога зьвера сябе пакуль не апраўдвае, хоць тэхнічна гэта праблема вырашана і гэтага віду зьверагадоўля зьяўляецца найбольш лёгкім у параўнаньні з разьвядзеньнем другіх зьвяроў.

## Разьвядзеньне скунсаў у СССР

Іншыя ўмовы разьвядзеньня скунса ў нас у Саюзе. Мех скунса карыстаецца пэўнай сымпатыяй за свой выгляд і моцнасьць. У давяенны час лепшыя скуркі скунса ў розьніцу каштавалі да 25—30 рублёў.

Прымаючы пад увагу якасьць меха скунса, яго пладавітасьць здольнасьць даваць мех высокай якасьці нават у паўночных раёнах, тэхнічную лёгкасьць яго разьвядзеньня, дагляд і кармленьне, а таксама і дзешавізну пабудовы клетак і прыгоднасьць для выхавальніка любога сухога, прысядзібнага вучастку зямлі,—прыходзім да вываду, што скунс надта каштоўны і цікавы аб'ект для зьверагадоўлі і пры тым даступны шырокім масам, якія цікавяцца гэтым пытаньнем.

Не аторая колькасьць скунсаў ужо прывезена на Далёкі Ўсход, здаецца, Уладзівастоцкім аддзелам географічнага таварыства. Аб выніках пакуль што невядома, але можна думаць, што справа пойдзе як сьлед. Трэба толькі гэты малы, але важны пачатак скарыстаць магчыма шырэй і досьледы з разьвядзеньнем скунсаў паставіць, як паказальныя і ў другіх выхавальніках, асабліва па лініі паляўнічай каапэрацыі.

**Праф. Г. Я. Генерозаў.**

# Аб разьвядзеньні ентавіднага сабакі

Ентавідны сабака жыве па ўсёй Азіі. У нас у СССР водзіцца ў Далёка-Усходнім краі. Для свайго жыльля ён выбірае месца каля рэчак, вазёр і па берагох марскіх затокаў. Селіцца таксама і ў горах, недалёка горных ручаёў і рэчак, на балотных кочках. Гнёзды будуе ў якіх-небудзь выемках, або чужых норах. Сваіх нор ентавідны сабака амаль што ня мае, а часьцей усяго карыстаецца дуплом дрэва, дзе сьпіць днём, а таксама выводзіць сваіх дзяцей.

Анатамічная пабудова ентавіднага сабакі амаль зусім не адрозьніваецца ад анатамічнай пабудовы лісіцы. Самка ад лісіцы адрозьніваецца тым, што мае ня 8, а 17 саскоў. Яна адрозьніваецца ад лісіцы яшчэ і тым, што пераварвае большую колькасьць расьліннага харчу, што залягае ў сьпячку з студзеня па сакавік месяц. Перад сьпячкаю загатаўлівае вялікую колькасьць жыроў і ў гэты пэрыяд яна мае меншую патрэбу ў харчох.

Харчы ентавіднага сабакі складаюцца галоўным чынам з рыбы. Аднак ён з вялікай ахвотаю есьць пацукоў, мышэй, жаб, яйкі і птушцоў, якія гнязьдзяцца на зямлі. Апрача гэтых харчаў, ентавідны сабака паядае ягады, жалуды, апаўшыя пляды.

Перад размнажэньнем ентавідныя сабакі жывуць стадам. У аднэй нары можна знайсьці ад 10 да 12 штук. Цечка ў ентавіднага сабакі адбываецца адзін раз у год. Злучка мае месца ў канцы лютага і пачатку сакавіка. Тэрмін цяжарнасьці 61 дзень. Шчанюкі зьяўляюцца ў канцы красавіка і пачатку мая ад 5 да 10 штук. Родзяцца сьляпымі і чорнымі і толькі на чатырнаццаты дзень адчыняюцца вочы. Шчанюкі паступова да трох-чатырох месяцаў бурэюць і дасягаюць акраскі бацькоў. Бацькі даглядаюць шчанюкоў сумесна і ўважліва. Ентавідны сабака здольны да размнажэньня на першым годзе жыцьця.

Як і ўсе драпежнікі, ентавідны сабака мала хварэе, ён надта стойкі і вынослівы. Хворобамі, якімі ён калі-ні-калі хварэе, гэта сабачая чума, глісты і дэрмацін. У любым кліматце ентавідны сабака ў першы год яго прывозу дае прыплод. Ентавідны сабака надта скора прызвычаецца да чалавека, які за ім даглядае.

Ентавіднага сабаку ў адлічны ад лісіц увесь час можна трымаць разам самца з самкай нават і ў час родаў і вырашчваньня маладняку. Але для падзешаўленьня ўтрыманьня выхавальніка самца лепш адлучаць ад самкі, інакш ён, застаючыся з аднэю, надта да яе прывыкае і можа адмовіцца пакрываць другіх самак.

Лепшымі вытворцамі будуць лічыцца бязумоўна тыя, якія родзяцца ў выхавальніку. Аднак, падбор вытворцаў павінен вытварацца па меху, экстэр'еру, стану здароўя, акрасцы, узросту, тэмпэрамэнту і племяннной якасьці. У адносінах меха трэба выключаць зьвяроў з разьвядзеньня з дрэнным мехам, дрэннай поўсьцю і адкрытым падшэрсткам. Па акрасцы меха зьвяроў трэба злучаць аднолькавай акраскі.

Злучку ентавіднага сабакі трэба вытвараць буйнага з буйным і дробнага з дробным.

У адносінах хваста трэба сыстэматычна падбіраць больш доўгахвостых зьвяроў. Хвасты ентавіднага сабакі карацей хвастоў лісіцы або пясца, ад чаго і паніжаецца каштоўнасьць скуры.

Калі была вытварана зьверагадоўчая ацэнка зьвяроў, то трэба злучаць добрых з добрымі, кепскіх з кепскімі, але ні ў якім разе ня зьмешваць кепскіх з добрымі, так як тады ніколі напэўне нельга будзе падабраць добрае племянное стада. Па ўзросту лепш ужо мець выпрабаваных вытворцаў, а не першагодак. Першагодак патрэбна пакідаць для рамонту і росту стада. Пры неабходнасьці маладых самак можна злучаць з старым самцом, а маладога самца з старай самкаю.

Добрым вытворцам будзе лічыцца той, які да студзеня месяца прыбывае проці нормальнай вагі на 40—50 проц. Нармальнай вагай лічацца: першая катэгорыя—малыя, 50—52 см. даўжыні—4 кілёграмы; другая катэгорыя—сярэднія—54—57 см., 4,5 кілёграмы; трэцяя катэгорыя—вялікія—58—61 см.,—5 кілёграм; чацьвертая катэгорыя—надта вялікія—62—67 см.,—5,5 кілёграма.

Таму пры разьвядзеньні неабходна не радзей аднаго раза ў месяц узважваць вытворцаў і забракоўваць тых, якія не маюць да студзеня прыбаўкі ў вазе проці звычайнай вагі.

Кармленьне ентавіднага сабакі павінна прадугледжваць наступныя мэты:

Даць зьверу ўсё неабходнае ў якасьці вытворца для выпрацоўкі палавых прадуктаў, узбуджэньня палавой дзейнасьці, выношваньня плоду і выкармліваньня маладняку.

Выросьліваць на зьверу добры мех.

Розьніца ў рацыёне для кормячага шчанюка ентавіднага сабакі выражаецца ў наступным: цяляціны замест 15 грам даецца 25, бульбы зусім не даюць, кішок замест 15 грам—18, дабаўляецца печанага хлеба 20 грам, малака павялічваецца да 100 грам, зусім не даецца рыб'ягa жыру.

Прадукты для шчанюкоў даюцца тыя-ж самыя, што і для маткі, так як бацькі на чацьвертым тыдні пачынаюць іх падкармліваць сваёй адрыжкаю і к восьмаму тыдню шчаняты ўжо пакідаюць кармільца малаком маткі, і харчуюцца самастойна.

Аднак для падзешаўленьня ўтрыманьня зьвяроў фэрмы трэба будаваць там, дзе ёсьць больш танных харчоў, асабліва пры трусятніках, пры ўбоечных і адкормачных пунктах.

Ентавідны сабака ў харчох не разьбіраецца і паядае ўсё, што яму пападуць. Таму нашым раённым таварыствам паляўнічых трэба заняцца разьвядзеньнем ентавіднага сабакі і арганізаваць гэтую справу, як мага хутчэй.

В. Данькоў.



Усесаюзная выстаўка сабак.

# Паляваньне на лісаў з ганчакамі

Ліс, як і заяц, па прыродзе—мясцовы зьвер і акруга яго паходаў хоць і большая за акругі зайца, але заўсёды даступна для паляваньня з ганчакамі. Параўнаўча самая вялікая акруга ліса бывае настолькі вялізарна, што, робячы пад ганчакамі колы, ён зводзіць імі з слыху паляўнічага, але на самы кароткі тэрмін. Такія вялікія колы сустракаюцца толькі ў зусім чыстых мясцох або ў вялізарных па



Загналі.

плошчы лясох. Аднак ліс робіць колы малыя ці вялікія, але заўсёды правільныя пад ганчакамі. Велічыня і правільнасьць кола залежыць ад паратасьці і сілы ганчакоў. Пад „пешымі“ ганчакамі ліс здольны рабіць колы ў якіх-небудзь пяці гэктарах зарасьніку амаль што ўвесь дзень і з тае прычыны, што такога гону ён не баіцца, то і колы яго бываюць самыя няправільныя. Чым шпарчэй, сільней гон, тым большыя і правільныя колы робіць ліс і хаця ён часта вырываецца з „ат'ёмаў“, але таксама часта, зрабіўшы вядомае кола, зьвяртаецца і ходзіць па старых сьлядох. Другая і самая галоўная ўмова, каб ліс даваў колы пад ганчакамі маленькія і правільныя, каб у час гону ён ня быў напалоханы. Наскалькі ён мала баіцца правільнага гону аднаго ці некалькіх сабак, настолькі-ж палохаецца ад усякага іншага гуку ці прадмета. Дастаткова, каб ў стаі ганчакоў быў адзін „перачун“, каб зьбіць ліса з правільных колаў; ён пачуе неасьцярожную паходку чалавека ці яго голас, ня кажучы ўжо аб стрэле і кідаецца ў бакі. У мясцох балоцістых, густа заросшых чаротам, лазой і інш., ліс ходзіць коламі ўсяго далей, таму і паляваньне на яго лягчэй, чым у лесе і няма неабходнасьці займаць „лазы“ далёка ўперадзе ад таго месца, дзе пушчаны ганчакі.

Велічыня колаў ліса пад гончымі залежыць ня толькі ад мясцовасьці, па якой яго ганяюць і шпаркасьці гону, але і ад некаторых іншых прычын. Так лісы „нагоненыя“, гэта значыць тыя лісы, якіх часта ўжо ганялі ганчакі, або лісы, якія ўжо пападалі пад стрэл, заўсёды адразу ідуць на вялікіх колах, а то проста ўцякаюць вельмі далёка і вяртаюцца ў сваю акругу толькі пасьля таго, калі ім не пагражае небясьпека.

У моцны мароз і густы туман ліс заўсёды робіць большыя колы, чым пры іншым надвор'і, а самыя маленькія ў сільны вецер або позна ўвосень ў шэрыя глухія дні. Гэта тлумачыцца тым, што галасы гончых кепска тады чутны і гонены ліс часта спыняецца, каб прыслухацца і, як правіла, ён пасьля кожнай астаноўкі ўжо абавязкова зьмяняе напрамак бегу. У туман, параўнаўча невялікую велічыню колаў можна растлумачыць тым, што ліс баіцца пакідаць лес. Апроч таго, у вельмі сільны туман усякі зьвер блытаецца і пападае ня туды, куды хоча.

Лепш за ўсё для паляваньня ходзіць ліс па роўнай мясцовасьці, у добрых, сярэдняй велічыні і зарошых „ат'ёмах“, горш за ўсё—у гарыстай няроўнай мясцовасьці. Справа ў тым, што ў горах бывае сільнае рэха і адгалоскі пужаюць ліса: ён адначасова баіцца і ганчакоў, гонячых яго і адгалоскаў. Як вядома, у горах часта ня чуць і самых ганчакоў, але чутна іх рэха і гэтаму рэху падпарадкоўваецца ліс, які нярэдка кідаецца насустрач ганчаком або раптоўна крута зьмяняе напрамак. Самі па сабе колы ліса ў горах невялікія. Звычайна яны абмяжоўваюцца аднэй лясістай гарой, вакол якой і водзіць ліс гончых. Калі ў вядомым пункце гары адгалоскі асабліва сільна чутны ўперадзе ліса, ён пераходзіць на другую гару і з яе, зрабіўшы кола, звычайна старым сьледам вяртаецца зноў. Але гэта бывае радзей; часьцей ліс проста кідаецца ў гару і перавальвае на другі яе бок і там паварачвае зноў вакол тэй самай гары, гледзячы па таму, адкуль чутны галасы ганчакоў і, вядома, у процілеглы бок ад іх.

Палюючы з „пешымі“ ганчакамі, трэба быць больш уважлівым, больш зьвяртаць увагі на напрамак ветру, часьцей аглядацца па баках і лепш хавацца, бо ліс пад такімі ганчакамі бяжыць ціха і асьцярожна, робіць частыя павароты і паказваецца нярэдка зусім не з таго боку, адкуль яго чакае паляўнічы. З гэтае прычыны, палюючы з „пешымі“ сабакамі, трэба добра вывучыць прывычкі ліса, каб заўважыць яго ўперад, чым ён убачыць засаду.

*(Працяг будзе ў наступных нумарах).*



Паляваньне на лісіцу з беркутам. Туркестан.

# ГАДУЙЦЕ ТРУСОЎ

## СКУРКА ТРУСА КАШТУЕ 3 РУБЛІ, А МЯСА МАЕ ШМАТ БЯЛКОЎ

Калі трусом будзем даваць мала корму, альбо будзем карміць адным кормам, напрыклад, канюшынаю ці кораньплодамі, дык ён будзе худзець і, урэшце, загіне. Гэта тлумачыцца тым, што трус у сваім кармавым рацыёне не атрымаў усіх тых спажыўных матэрый, якія неабходны для харчаваньня арганізму.

Але калі трусу даць лішняга корму, дык ён яго не паесьць і пры гэтым трус пачне тлусьцець, што не заўсёды карысна.

Калі мы хочам выгадаваць добры маладняк, дык ён не павінен тлусьцець у час разьвіцьця яго арганізму. Тлустая самка застаецца ў большасьці выпадкаў бясплоднаю, а то бываюць выпадкі выкідышаў. Ад тлустых самцоў у самкі бываюць прагулы. Ва ўсіх гэтых выпадках, як перакорм, так і недакорм аднолькава шкодны для трусоў і нясе гаспадарцы страты.

Калі мы хочам атрымаць ад разьвядзеньня трусоў больш карысьці, дык трэба даваць ім харчоў столькі, колькі патрабуе іх арганізм. Такая колькасьць харчоў завецца кармавою нормаю. Карміць трусоў па норме—значыць карміць па вазе, узважваць корм згодна устаноўленай нормы. Трусы ня ўвесь час патрабуюць аднолькавага корму.

Табліца кармавых рацыёнаў сена, аўса, бульбы, ячменнай мукі для трусоў сярэдняй пароды (норма ў грамах:

| Узрост у месяцах | Сена | Бульба | Авёс | Ячменная мука | Усяго за дзень |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад 1 да 1½ месяца | 10 | — | 8 | 10 | 28 |
| „ 1½ „ 2 „ | 35 | 40 | 20 | 10 | 105 |
| „ 2 „ 3 „ | 50 | 60 | 30 | 15 | 155 |
| „ 3 „ 4 „ | 60 | 70 | 25 | 15 | 170 |
| „ 4 „ 5 „ | 70 | 80 | 30 | 20 | 200 |
| „ 5 „ 6 „ | 100 | 100 | 50 | 20 | 270 |
| „ 6 „ 7 „ | 120 | 140 | 70 | 30 | 360 |
| Маткам, якія кормяць 5 штук трусоў ад першага месяца . . . . . . | 170 | 140 | 110 | 80 | 500 |

У злучны пэрыяд патрабуюць больш, а ў зімовыя месяцы—у час адпачынку патрабуюць менш корму.

Маладняк у пэрыяд росту патрабуе корму больш багатага бялкамі. Таму кармавыя нормы бываюць рознымі ў розныя моманты жыцьця трусоў.

Карысныя харчы для трусоў наступныя:

Сена, якое даецца трусом, павінна быць бяз пылу і цьвілі, бо пыл, які пападае ў вочы і дыхальныя і страўныя органы, выклікае хваробу гэтых органаў, а таму пыльнае сена перад тым, як даваць трусом, неабходна перatрасьці.

Сэрадэля, пунцовая канюшыня, чырвоная і белая канюшыня, адуванчык з вялікаю ахвотаю трусы паядаюць. Гэтыя травы вельмі карысны для цяжарных і кормячых самак.



Сьветла-шэра-срэбныя трусы Бешанковіцкага т-ва паляўнічых ва ўзросьце 15 дзён.

Трава з балотных месц зьяўляецца шкодным харчом для трусоў, бо ў ёй часта бываюць мікробы, якія прыносяць страўныя і бранхыяльныя хваробы. Бульба і бульбяная шалуха даецца трусом толькі ў гатаваным выглядзе, моркаў даецца ў сырым выглядзе. Моркаў добра ўплывае на рост шэрсьці і якасьць скуркі. Бручку даюць у сырым і гатаваным выглядзе. Капуста, авёс, ячмень, пшано, гарох, бабы і кукуруза даецца ў пакрышаным выглядзе, а калі яны даюцца ў цэлым выглядзе, дык іх патрэбна на працягу сутак мачыць у вадзе. Жмыхі і вотрубі даюцца ў запараным выглядзе.

Табліца кармавых рацыёнаў з сена, бульбы, аўса, ячменнай мукі для трусоў буйных парод (норма ў грамах):

| Узрост у месяцах | Сена | Бульба | Авёс | Ячменная мука | Усяго за дзень |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад 1 да $1^1/_2$ месяца | 10 | — | 10 | 10 | 30 |
| „ $1^1/_2$ „ 2 „ | 40 | 40 | 25 | 10 | 115 |
| „ 2 „ 3 „ | 60 | 60 | 25 | 15 | 160 |
| „ 3 „ 4 „ | 80 | 70 | 40 | 15 | 205 |
| „ 4 „ 5 „ | 90 | 90 | 50 | 15 | 245 |
| „ 5 „ 6 „ | 100 | 120 | 60 | 15 | 295 |
| „ 6 „ 7 „ | 120 | 120 | 60 | 20 | 320 |
| „ 7 „ 8 „ | 140 | 150 | 100 | 20 | 380 |
| Маткам, якія кормяць 5 штук трусоў ад першага месяца . . . . . . | 190 | 150 | 150 | 70 | 560 |

**Атрутныя кармы**. Сярод лугавых балотных, лясных, палявых і гародных траў знаходзіцца шмат атрутных расьлін, якія выклікаюць хваробу сьлізістай абалочкі і страўнага апарату ў трусоў. Таму з вялікай асьцярожнасьцю трэба скармліваць засьмечаныя травы садоў і гародаў. Да атрутных расьлін належаць наступныя: беляна, куколь, малачай, люцік, ветранка, мак, зялёная цьвятучая пшаніца, лукавіч-

ныя расьліны ўсіх відаў, плады, лісьце і кара костачковых дрэў, лісьце фасолі, лісьце дуба і арэхавага дрэва, бульбянік не ў гатаваным выглядзе.

Дзякуючы беднасьці большасьці расьлін натрыем, карысна ў харч труса дабаўляць солі з такога разрахунку: 1,5 грама на дарослага труса і 1 грам на дарослага маладняка. Для гэтага сена апырскваць салёнаю вадою альбо падсаліць пры варцы бульбы, ці мачыць авёс у салёнай вадзе.

Трус большай часткаю днём сьпіць, таму ўначы больш паядае харчоў, чым днём і ўначы яны з большай ахвотаю ядуць больш грубыя кармы. Да гэтага трэба прыстасоўвацца пры складаньні кармовых дач у розныя часы сутак. Харч даецца цяжарным, кормячым самкам і маладняку 3 разы на дзень.

Карміць трусоў трэба ў вызначаны час. Калі мы ня будзем прытрымлівацца гэтага часу, дык трусы з вялікай прагнасьцю накідваюцца на корм, хутка напаўняць страўнік, кепска пераважаваным кормам, што парушае правільнае пераварваньне харчоў.

Карміць самак і самцоў да злучкі трэба так, каб яны ня былі надта тлустымі, бо ад тлустых самцоў самкі не запладняюцца або становяцца малаплоднымі.

З моманту цяжарнасьці самак неабходна паставіць у такія ўмовы існаваньня, пры якіх магло-б ісьці правільнае разьвіцьцё зародкаў. Для гэтага цяжарным самкам трэба даваць корм багаты бялкамі і мінэральнымі матэрыямі, у асаблівасьці фосфарнавапнавымі солямі. Ад кепскага корму цяжарных самак родзяцца слабыя трусы. За пару дзён да акоту і за дзень пасьля акоту трэба зьменшыць дачу аўса і даць пабольш кашы з аўсянай мукі. Малады трус больш патрабуе мінэральных матэрый, а ў асаблівасьці вапны і фасфарытнай кіслаты, якая ідзе на пабудову касьцей. Таму ў корм маладняку патрэбна даваць фосфарную муку з разьліку 0,5 грама на кожную галаву маладняку. Кожны трусавод павінен ведаць наступныя правілы корму:

Корм павінен быць добраякасным. Спачатку трэба карміць здаровых трусоў, а пасьля хворых. Неабходна сачыць за чыстатою кармушак, з аднае кармушкі ў другую перакідаць корм ня трэба, ня класьці корм на падлогу клеткі, караньплоды перамываць, а авёс перасейваць праз рэшата. Кармы павінны быць па магчымасьці рознастайныя. Карміць трусоў трэба ў пэўны час. Улетку карміць травою вечарам або днём, але не раніцою ў клетачным разьвядзеньні. Карміць трэба толькі па нормах. Пераход ад аднаго корму да другога, напрыклад, ад сухога да зялёнага і наадварот павінен утварацца асьцярожна і паступова.

Ад няправільнага корму кормячых самак трусяняты амаль пагалоўна хварэюць страўнакішэчнымі хваробамі і гінуць ад паносу.

**Галубчык.**

# Беларускі дзяржаўны запаведнік

На паўночным захадзе Беларусі і Менскай акругі, абапал ракі Бярэзіны, раскінуўся, з поўначы на поўдзень, Беларускі дзяржаўны паляўнічы запрэтнік. Агульная плошча запрэтніка да 80 тысяч *га*, якая на 60 проц. знаходзіцца ў Бягомльскім раёне, на 20 проц. у Халопеніцкім, на 10 проц. у Барысаўскімі на 10 проц. у Лепельскім.

Адміністрацыйна запрэтнік падзяляецца на два раёны, мяжой паміж якімі лічыцца Сяргучоўская канава.

Першы раён складаецца з 18 абходаў і аднаго пажарніка пры трох аб'ездах, а другі—з 19 абходаў пры 4 аб'ездах і аднаго канюха пры канцэлярыі. Пры галоўнай канцэлярыі маецца выхавальнік зьвяроў і біостанцыя, якая пачала сваю працу з ліпеня месяца 1930 году.

Даць дэталёвы плян акруговай мяжы і ўнутранай сітуацыі зараз немагчыма, бо на працягу двух гадоў ідзе лесаўпарадкаваньне. Толькі к канцу сёлетняга сэзону будзе адведзена акруговая мяжа і ўтворана квартальная сетка.

У Беларускім дзяржаўным паляўнічым запрэтніку маюцца наступныя зьвяры: лось, каза, дзік, мядзьведзь, воўк, рысь, ліс, барсук, бабёр, выдра, нарыца, куніца, тхор, заяц, гарнастай, вавёрка. Птушкі—глушэц, цецярук, рабчык, курапатка, пардва, слонка, дубаль, бакас, качка-крыжак, цырынка-траскунок, цырынка-сьвістунок, дзяркач, балацяныя куркі, жураваль, чорназобая гагара.

Хоць зараз выявіць сталы падлік усёй колькасьці зьвяроў і птушак вельмі цяжка, але пры праверцы кожнага з абходаў можна было наглядаць, што коз і мядзьведзяў у тры разы менш, чым іншых.

Трэба заўважыць, што розна-тыповыя дрэвастаны з багатай травяной і хмызьняковай расьліннасьцю ствараюць вельмі спрыяючыя ўмовы для жыцьця і прыплоду зьвяроў.

З адмоўных бакоў, якія зьяўляюцца вялікай перашкодаю ў захаваньні, і колькасным павялічэньнем фауны—гэта неасяродкавае распалажэньне запрэтніку ў рэспубліцы, наяўнасьць дробных насельніцкіх пунктаў і паасобных хутароў на востравах, пасьба жывёлы, якая захапляе да 50 проц. плошчы запрэтніка, браканьерства. Сялускія сенажатныя вучасткі, пабочныя карыстаньні, як збор грыбоў, ягад, сплаў лесу па Бярэзіне, бадзячыя сабакі і каты, дзікія драпежнікі.

Зазначаныя адмоўнасьці ўсе цалкам выжыты быць ня могуць. Гаспадарчыя і навукова-дасьледчыя ўстановы запрэтніку ставяць сваей мэтай:

Захаваць тыя паасобкі, якія засталіся адзінкамі па Саюзе, як бабёр і выдра.

Размножыць усе карысныя паасобкі да такой колькасьці, каб зьвяры пачалі пашырацца па ўсяму абшару Беларусі.

Вывучыць дасканала і апісаць дыялёгію кожнага паасобку з мэтай найбольшай якаснай і колькаснай лічбы.

Зьнішчыць усіх драпежнікаў, галоўным чынам ваўка, рысь і бадзячую сабаку.

Утварыць даходны выхавальнік некаторых пушных паасобкаў, арганізаваць і ўтварыць пры біостанцыі музэй і па магчымасьці зоопарк.

Больш дэталёва дасьледваць і апісаць натуральнагістарычна зоолёгічныя ўмовы пасьля лесаўпарадкаваньня.

Вывучыць і апісаць флёру і рыб на тэрыторыі запрэтніка.

Прыняць удзел у карэспандыраваньні ў часопіс „Паляўнічы Беларусі“.

Даць вынікі паралелізму эксплёатацыі драўніны і захаванасьці зьвяроў.

**Шэйка.**

## А Данькоў вырашае праблемы

— А, гэта вы, таварыш Данькоў! Наша вам шанаваньне! Як жывеце? Што вы зараз робіце? А даўно я вас ня бачыў. Ня чуў нават і пра ваша існаваньне. Толькі выпадкова, разумееце, учора даведаўся, што вы жывеце і нават працуеце ў Дзяржгандбелу. Вырашаеце ўсё новыя і новыя праблемы...

— Вы мяне разумееце?

— Ну, вырашэньнем такіх праблем, якімі вы займаліся ў часе вашай працы ў якасьці старшыні „Белкохотсоюза“. Што, таксама не памятаеце? Ну, тады, калі вы вырашалі праблему пяцігадовага пляну аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі... Што, таксама не памятаеце? Ну, тады калі вы першы год пяцігодкі з трэскам правалілі, а другі напалову ўгробілі.

— Ага, так, памятаю!

Данькоў зьмяніў адразу-ж тон, яго твар стаў сур'ёзным і пачаў мне расказваць пра свае новыя праблемы.

— Я зараз сяджу над „вырашэньнем“ мясной праблемы і пішу па гэтаму пытаньню адносіны:

**„Тэрмінова. 28-IX—30 года № 27144. Саюзу Паляўнічых. Тут**

Саюзнаркамгандлю прапанаваў хутка ўзяць на вучот усе паляўнічыя агнябояпрыпасы для забясьпячэньня пушных нарыхтовак. Дзеля чаго вам належыць хутка ўзяць на вучот усю колькасьць паляўнічых прыпасаў, маючыхся ў Менску, раёнах і „Дынамо“, асабліва пораху і шроту і ў далейшым праводзіць водпуск гэтакіх выключна для пушных нарыхтовак, забараніўшы выдачу на іншыя патрэбы, напрыклад, стральбу па талерачках і для дзічы.

Са сваіх баз у першую чаргу забясьпечвайце раёны найбольшых нарыхтовак пушніны.

Аб выніках і колькасьці ўзятых на вучот паляўнічых прыпасаў тэрмінова паведаміце нас і ў далейшым аб руху гэтакіх сваячасова паведамляйце.

У выпадку невыканьня гэтага мы прымушаны будзем паведаміць Саюзнаркамгандлю і Пушнасындыкат і ўзяць на сябе непасрэднае забесьпячэньне раёнаў памянёнымі прыпасамі праз нашу нізоўку. **Дзяржгандльбел (Данькоў).**

Вянок Данькову за выслугу ад Белкохотсаюза.

Вось гэта навіна! Вынаходцтва!

І сапраўды. Сядзяць людзі ў „Белкохотсоюзе“, атрымліваюць пэнсію і нават такую, як і тав. Данькоў і ў такі час, калі не хапае шроту, страляюць па тарэлачках і нават па дзічы(?!)

Гэта ж недапушчальная справа(?!) Разумееце, шротам страляць па дзічы і талерачках(?!) А ці нельга было-б куды лепш зрабіць—дзічыну не страляць, а проста каменьнямі біць?—як прапануе тав. Данькоў.

А „Белкохотсоюз“ упарта супраціўляецца і дае настойліва адну за другой дырэктывы:

**„Паляўнічыя павінны прыняць актыўны ўдзел у вырашэньні мясной праблемы шляхам павялічэньня здабычы дазволенай да адстрэлу дзічы і здаваць выключна кааперацыі для здавальненьня патрэб рабочых раёнаў“.**

Гэта галавацяпства! Ці-ж ня так, тав. Данькоў? Дзіч страляць шротам (?!)

Сорамна, таварышы з „Белкохотсоюза“. Вучыцеся ў таварыша Данькова, паслухайце, што ён вам раіць: па дзічыне не страляць, бо мяса і так хапае; па талерачках і ня думайце, бо снайпёры нам не патрэбны. А калі вы ня хочаце, дык Дзяржгандбел, за подпісам таварыша Данькова вам прапануе.

Вам здаецца дзіўным, што прапануе Дзяржгандбел, які ня мае права вам прапанаваць? Але-ж гэтае права мае асабіста таварыш Данькоў.

* * *

Я цалкам і поўнасьцю згаджаюся з вамі, таварыш Данькоў. Вы трыжды правы. Мая вам парада — адчапіцца ад „Белкохотсоюза“. Усё роўна нічога ня выйдзе. Займецеся вы лепш самі продажам огнябояпрыладаў. Я вам нават раю заняцца нарыхтоўкай жывых шэрых курапатак, жывых драпежнікаў, жывых бадзячых сабак. Гэта-ж у вас такі вялікі попыт накапіўся за час працы ў „Белкохотсоюзе“!

**Стары знаёмы.**

**Ад рэдакцыі:** Мы спадзяемся, што дырэктар Дзяржгандбелу тав. Шэйнін зацікавіцца гэтай справай і растлумачыць Данькову, што для вырашэньня мясной праблемы мы павінны павялічыць здабычу птахі, што продаж агнябояпрыладаў з мэтаю зьмяншэньня браканьерства, ЭКАНА і Наркамгандаль дазволілі толькі „Белкохотсоюзу“ і „Дынама“, і што шротам, якім страляюць па талерачках, не страляюць па зьверу.

## Недахопы ў заказьніку

Заказьнік, які знаходзіцца ў Якубаўскай, Шадурскай дачах (Юхнавіцкага і Клясьціцкага лясьніцтваў, Полацкай акругі), не ахоўваецца. Па гэтых дачах у канцы 1929 і пачатку 1930 году пачаліся лесараспрацоўкі. Пасьля падчысткі, гальлё паляць, ад чаго зьнішчаюцца маладыя вывадкі розных зьвяркоў.

Раней у гэтых лясьніцтвах можна было бачыць шмат дзікіх коз, але пасьля лесараспрацовак ня толькі козы, але і іншыя зьвяркі адсюль уцякаюць.

На такія зьявішчы праўленьне паляўнічых павінна зьвярнуць увагу.

**Марачкоўскі.**

# КРЫТЫКІ МАС

## Начальства палюе

У 14 кілёмэтравай адлегласьці ад г. Віцебску знаходзіцца мох „Шыдлоўшчына". На гэтым угодзьдзі водзіцца цецярук і пардва. Да мінулага году гэты мох быў заказьнікам. З адчыненьнем заказьніку карыстаньне паляўнічымі гэтым угодзьдзем вытвараецца рэдка і ў большасьці выяжджаюць туды паляваць тыя паляўнічыя, якія ня прытрымліваюцца тэрмінаў паляваньня.

Сёлеташні сэзон, пры адчыненьні паляваньня на цецярукоў і пардву па Віцебшчыне, паляўнічы Гаравой свой выхадны дзень парашыў скарыстаць на гэтым імху, і каб папярэдзіць магчымасьць узьнікненьня перашкод для паляваньня ў гэтым годзе, з тае прычыны, што ён зьяўляецца палігонам адной вайсковай часткі, т. Гаравой забясьпечыў сябе паперкаю ад акруговага таварыства з просьбаю не перашкаджаць яму паляваньне.

Зьявіўшыся на мох т. Гаравой спаткаў палюючых начальніка палігона Шаеўскага і цэлую кампанію яго таварышоў паляўнічых—Качана, Лебедзева і інш. Спаткаўшыся з гэтымі асобамі Гаравы паказаў ім паперку ад акрпраўленьня і ў дадатак зьвярнуўся да іх з просьбаю, каб дазволілі яму паляваньне. Але адказ быў кароткі:

— Паляваць не вайсковым асобам на палігоне— забаронена, а падругое, тут толькі палюе начальства.

Цікава ведаць, чаму было дазволена паляваньне невайсковым асобам з кампаніяй Шаеўскага і чым быў выкліканы дазвол паляваць на палігоне, дзе знаходжаньне невайсковым асобам наогул забаронена.

Адпаведным установам патрэбна зацікавіцца гэтай справай і высьветліць сапраўдную яе сутнасьць

**Вока.**

## Драпежнікі з паляўнічымі білетамі

8 верасьня паляўнічымі Крупскага раёну Марцінкевічамі Юлікам і Мікалаем утваралася паляваньне з ганчакамі на дзікіх коз, у выніку чаго была забіта дзікая каза-самка.

Алісіевіч Янка Зяновіч, які пражывае ў вёсцы Калпыніца, Нацкага сельсавету паляўнічы білет узяў для сябе, а на паляваньне ходзяць удвох з сынам. У выніку іх паляваньня жанчыны, якія зьбіраюць грыбы і ягады, знаходзяць падстрэленых глухароў.

Крупская раённая арганізацыя паляўнічых да гэтага часу ніякіх мер да зьнішчэньня браканьерства ня прымала, ня гледзячы на заявы з боку паляўнічых.

Трэба аздаравіць паляўнічую арганізацыю і ўстанавіць суровую дысцыпліну сярод яе сяброў і толькі пры такіх умовах можна падняць паляўнічую гаспадарку.

**Паляўнічы.**

### Што зрабіла неасьцярога

**Корахаў Рыгор Максімаў і Татура Нічыпар Мацьвееў з вёскі Новы Макрэц**, Брагінскага раёну, здабылі паляўнічыя стрэльбы і задумалі заняцца браканьерствам.

Корахаў прышоў да Татура папрасіць стрэльбу, якая была схавана пад печкаю. Татура пачаў даставаць з-пад печкі стрэльбу і ў гэты час курок зачапіўся і выстраліў проста ў Корахава, у выніку чаго вырвала кусок чэлюсьці, 9 зубоў і палову языка.

**Сідарэнка.**



Выпадак.

## Ваўкі плодзяцца

Пакрыху прападаюць зьвяры. Так зьніклі зубры, зьнікаюць бабры і ваверкі, але затое плодзяцца ваўкі. З ваўкамі зараз рады няма. Паляўнічыя з імі змагаюцца слаба, а больш і няма каму змагацца. Заўжды можна пачуць—там зарэзалі каня, там карову, авечку.

Трэба ўзмацніць барацьбу з ваўкамі і ахову карысных зьвяроў і птах. Кепска і з рыбнай гаспадаркай: рыбу ловяць калі і як хочуць.

Мае прапановы: вясной сурова сачыць за мясцамі гнездаваньня і ахоўваць карыснага зьвера і птаху. Зьнішчаць у любую пару шкоднага зьвера і птаху. Накладаць штраф на ўсіх тых, хто разбурае гнёзды карысных птах і жывёл, а паляўнічых выключаць з саюзу.

**Дзянісенка І.**

**Ад рэдакцыі:** Прапановы т. Дзянісенка жыцьцёвыя. Раённыя т-вы ўзімку павінны арганізоўваць брыгады абкладчыкаў і рабіць аблавы на ваўкоў. Увясну гэтыя брыгады павінны заняцца аховай месц гнездаваньня птах і зьнішчэньнем і разбурэньнем гнёздаў шкодных для сельскай, лясной і паляўнічай гаспадаркі птах і не аслабляць барацьбы з драпежнікамі.

## Стралковая сэкцыя, дзе ты?

У 1928 годзе на іпадроме (у Кашарах) Менскае таварыства паляўнічых зрабіла стэнд для стральбы па талерках. Увесь год стралялі амаль па два разы на тыдзень, але ў 1929 годзе замест двух разоў на тыдзень стэнд быў адчынен толькі два ці тры разы за ўвесь сэзон, а ў 1930 годзе—ні разу.

Стралковая сэкцыя, дзе ты? Пачні сваю працу—моладзь чакае. **М. Г. С.**

## Абураючы факт

8 верасьня ў лесе **Крупскага лясьніцтва** забіта дзікая котная каза. Забойцы казы—паляўнічыя **Марцінкевічы Юлі і Мікола,** якія зьяўляюцца сябрамі саюзу паляўнічых. Браканьеры затрыманы. Марцінкевічы выключаны з саюзу паляўнічых і справа перададзена ў суд

Паляўнічыя Крупскага раёну абураны гэтым зьявішчам і патрабуюць суровай кары драпежнікам паляўнічай гаспадаркі. **С.**



Хата бабра на возеры. Мускавіна, Белдзяржзапаведнік.

## Мёртвая ячэйка

**Чабатавіцкая сельская ячэйка** (Гомельшчына) за ўвесь летні пэрыяд не вяла ніякай працы сярод паляўнічых. Асабліва кепска працуе бюро. У ваколіцы завялося шмат браканьераў, але таварыства паляўнічых ніякіх захадаў да зьнішчэньня браканьерства ня прымае. **Вока.**

## Зьнішчаюць браканьераў

Паляўнічыя **Смычкоўскага** сельсавету на агульным сходзе абяцаліся выявіць усіх браканьераў. Абяцаліся таму, што самі садзейнічалі браканьерству і калі першы раз ім даравалі, дык яны і забыліся пра зьнішчэньне браканьерства.

Уваравіцкаму райкалектыву трэба зьвярнуць увагу. **Н-скі.**

## Лясная варта—браканьеры

11 верасьня ва ўрочышчы **Раманішына** (Буда-кашалёўскае лясьніцтва) лясьнікі **Зыкаў Рыгор** ды іншыя ўвесь дзень з сабакамі ганялі зайцаў. Калі адзін дзядзька сказаў, што нельга цяпер зайцаў страляць, дык яны адказалі:

—Нам усё роўна, калі папала, тады і страляй.

Такіх драпежнікаў трэба пакараць. **З.**

## Ваўкі душаць коняй

Каля вёскі **Зялёнаўка**, Гомельскага раёну, разьвялося шмат ваўкоў. За жнівень месяц задушылі каля 5 сьвіней і 2 жарабят. Паляўнічым трэба павесьці рашучую барацьбу з драпежнікамі.

**Паляўнічы.**

## З газэт і часопісяй

* **Прэзыдыум сэкцыі** службовай сабакагадоўлі ЦС Асаавіяхіму СССР зацьвердзіў маршрут трохтысячнага кілёмэтровага прабегу на сабаках. Прабег пачнецца ў Петразаводзку і пройдзе праз Ленінград, Маскву, Ніжні Ноўгарад. Фініш мяркуецца ў гор. Сьвярдлоўску.

* **Маскоўскі Дзяржгандаль** ахову свайго трусаводнага саўгасу вытварае пры дапамозе сабак. Для гэтай мэты арганізуецца выхавальнік, у якім будуць нямецкія, каўкаскія і паўночна-расійскія аўчаркі.

* **Татарскі абласны „Кохотсоюз“** асыгнаваў сродкі па таварыствах для выпаўненьня пляну кантрактацыі па загатоўцы трусовых скур у колькасьці 12 тысяч штук і туш 9.900 штук.

* **Праўленьне „Уралохотсоюза“** зацьвердзіла рашэньне савету прамысловай гаспадаркі аб арганізацыі конкурсу на зьнішчэньне пярнатых драпежнікаў. На мясцох вырашана правесьці арганізацыю майстэрняў па выпрацоўцы чучалаў пярнатых драпежнікаў у першую чаргу ў Табольску і Пермі.

# Абменьваемся вопытам

## Больш справы, чым слоў

З году ў год наглядаецца памяншэньне дзічы ў нашых паляўнічых угодзьдзях. Зьмяншаецца, а мясцамі зусім гіне цецярук і нардва. Там, дзе некалькі год таму назад было шмат гэтай дзічы, зараз з цяжкасьцю за цэлы дзень знойдзеш адзін вывадак. Такое становішча прымушае паляўнічы друк на гэтым вучастку завастрыць увагу паляўнічай масы і яе арганізацыі. Ідучы па лініі захаваньня дзічы ад яе поўнага зьнішчэньня, у чэрвені месяцы сэкцыяй паляўнічай гаспадаркі быў склікан сход паляўнічых гораду Віцебску для абгаварэньня пытаньня па захаваньні дзічы. У спрэчках аб мэтаду захаваньня ўсе выказаліся за тое, каб абмежаваць колькасьць адстрэлу наогул і забараніць адстрэл старак у прыватнасьці. Сходам была прынята пастанова:

Устанавіць на далейшы час ня менш 10 штук дзічы на адну зброю.

Рашуча забараніць паляўнічым адстрэл старак ад вывадкаў, а заўважаных у парушэньні паказанага парадку штрафаваць ад 2 да 5 рублёў.

Здаецца, што пасьля такой пастановы справа захаваньня дзічы павінна быць наладжана. Пастанова сходу была перададзена праўленьню таварыства на зацьверджаньне і апавяшчэньне паляўнічых, але ў выніку чамусьці аказалася, што паляўнічыя аб гэтай пастанове нічога ня ведаюць. Нават сьвядомыя паляўнічыя забыліся пра тое, за што яны галасавалі. Нават і яны пацьвярджаюць немагчымасьць адмежаваць старкаў ад маладняку і тым самым штурхаюць менш сьвядомых паляўнічых працягваць і надалей біць старак.

Выходзіць, што віцебскія паляўнічыя, а разам з імі і праўленьне таварыства ўпустую займаліся разглядам мерапрыемстваў па захаваньні дзічы.

**М. К.**

## Пераход на гаспадарчы разрахунак—узмацняе і паляпшае працу райкалектываў

У ліпені месяцы на агульным раённым сходзе паляўнічых Горацкае бюро калектыву паляўнічых рабіла справаздачу аб сваёй гадовай працы. У справаздачы азначалася, што гэты год быў значным умацаваньнем нашай каапэрацыі. У параўнаньні з мінулым годам агульны лік сяброў павялічыўся на 72 проц. Галоўным чынам рост ідзе за лік беднякоў. У гэтым годзе дабіліся 100-процантнага спагнаньня паю, усе паляўнічыя атрымалі білеты на рукі. Праведзена чыстка паляўнічых, у выніку чаго вычышчана 26 асоб, арганізавана 6 сельскіх ячэек, намечана да арганізацыі яшчэ 4. Плян пушных загатовак выканан на 51 проц., што ў параўнаньні з мінулым годам дае павялічэньне на 46 проц.

Дзяржгандаль у нашым раёне ў гэтым годзе, апрача нашай загатоўкі, загатовіў яшчэ 12 проц. Недавыкананьне пляну тлумачыцца нерэальнасьцю плянавых заданьняў акруговага праўленьня і дрэнным надвор'ем.

Значную працу райбюро прарабіла па пераходу на гаспадарчы разрахунак, у выніку чаго мы маем значныя дасягненьні ў здавальненьні паляўнічымі прыладамі сваіх сяброў. Уласных сродкаў маем у сярэднім 815 рублёў. Пры райбюро існуе каса ўзаемадапамогі, якая мае 185 рублёў 50 кап. За гэты час выданы 11 сябрам грошы на пакупку паляўнічых прылад. Значная праца праведзена па барацьбе з драпежнікамі і браканьерствам. Адабрана каля 50 стрэльбаў, злоўлена 3 браканьеры, забіта каля 120 бадзячых сабак.

„Паляўнічы Беларусі“ мае падпісчыкаў з агульнага ліку 63 процанты, але ў бягучым годзе падпіску трэба давесьці да 100 проц.

Працу райбюро сход прызнаў здавальняючай, зацьвердзіў акт рэвізыйнай камісіі і намеціў далейшыя шляхі працы калектыву. З здавальненьнем сход адзначыў пераход райбюро на гаспадарчы разрахунак.

**Л.**

## Расьцем і мацнеем

Ячэйка паляўнічых Чырвонасьцяжнага скурзаводу „Бальшавік“ з кожным днём павялічваецца і мацнее. Рабочыя не паляўнічыя зацікавіліся гэтай справай і наша ячэйка будзе самай буйнейшай. Праведзена ўжо 2 агульных сходы, на якіх разьбіралі такія пытаньні, як калектыўная здача дзічы, аб зборцы і закупцы грыбоў, аб трусагадоўлі, аб барацьбе са шкоднікамі паляўнічай гаспадаркі, разабралі рэзалюцыю па дакладу праўленьня на пленуме і інш.

Цэнтральнае праўленьне павінна зьвярнуць увагу на гэту ячэйку, яно павінна ў першую чаргу забясьпечыць сяброў добрымі стрэльбамі, сабакамі і іншымі паляўнічымі прыладамі.

**Г. Мартыненка.**

## Наладзіць сувязь з вясковымі ячэйкамі

Як на буйных прадпрыемствах у горадзе, так і па вёсках утвараюцца паляўнічыя ячэйкі. Утвараюцца дзеля таго, каб лепш наладзіць працу паляўнічай гаспадаркі. Але ёсьць шмат выпадкаў, калі ў часе касьбы або жніва зьнішчаецца шмат карысных птушак і зьвяркоў. Зьнішчаюцца яны дзякуючы таму, што за гаспадарамі бягуць і іх сабакі. Часта здараецца і так, што забітая дзіч застаецца ляжаць на полі ў той час, калі з яе можна атрымаць карысьць як за скуру, так і за сала, якое можна здаць у салатопку.

Кепска толькі тое, што па раёнах зусім мала пабудавана салатопак, куды можна было-б здаваць розную забітую дзіч.

А таму трэба, каб цэнтральнае праўленьне саюза паляўнічых зьвярнула ўвагу на хутчэйшую пабудову салатопак у раёне. Падругое, трэба разгарнуць працу сельскіх ячэек, а для гэтага я прапаную, каб усе гарадзкія ячэйкі трымалі цесную сувязь з вясковымі і дапамагалі ім у працы.

**М. Давыдоўскі.**

## Пачалі разводзіцца курапаткі

Ва ўрочышчы Боркаўскага лясьніцтва пачалі разводзіцца шэрыя курапаткі. Паляўнічым трэба за імі наглядаць, каб яшчэ больш разьвялося шэрых курапатак. На гэтым месцы неабходна стварыць заказьнік.

**Паляўнічы.**

## На барацьбу з драпежнікамі

Цяплінская ячэйка паляўнічых, Самахвалаўскага раёну, задалася мэтай зьнішчыць драпежнікаў, для чаго падзяліліся на 4 групы па 6—8 чалавек. Разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва паміж групамі на большае зьнішчэньне шкоднікаў. У маі месяцы першай групай знойдзены вывадак маладых ваўкоў у 9 штук. Стары воўк забіты. У верасьні забіты тры штукі вялікіх ваўкоў і адзін цяжка паранены. Усяго ячэйкай зьнішчана 13 штук ваўкоў. Шмат забіта бадзячых сабак і драпежнікаў.

**Сакольчык.**

## Райбюро не працуе

Расонскае бюро паляўнічых (Полацкая акруга) ужо паўтары гады, як не вядзе ніякай работы. За ўсё лета ня было ніводнага сходу паляўнічых. Паляўнічыя прылады, якія райбюро атрымлівае ад Полацкага таварыства, не разьмяркоўваюцца па ячэйках, а атрымліваюць тыя, якія маюць дачыненьне да старшыні райбюро.

Расонскаму райбюро трэба распачаць працу, бо інакш загатоўка дзічы і пушніны сарвецца.

**Мікола.**

## Сабакі зьнішчаюць дзіч

Аб заслаўскіх паляўнічых ходзяць чуткі, што яны так „пільна“ зьнішчаюць сабак, што аж падстрэлілі дзіця.

У вёсках Стайкі і Рудня, Лагойскага раёну, пастухі водзяць з сабою на пашу сабак. Дзе раней было шмат дзічы, але дзякуючы сабакам, дзіч тут зводзіцца.

Каля вёсак Церахі, Грамніцы і Корань, дзякуючы сабакам, што ходзяць за пастухамі, цецярукі, пардва і вірыбкі зусім зьвяліся.

Паляўнічым трэба павесьці рашучую барацьбу з гэтымі зьявішчамі.

У вёсцы Мачулішчы паляўнічы Стась Ліхтаровіч пайшоў у лес, каб высачыць ваўка, узяўшы з сабою сабаку. Сабака нагнаў маладога воўка. Ліхтаровіч накінуў яму на шыю пастронак і павёў дадому. Праз два тыдні такім чынам Ліхтаровіч злавіў другога ваўка.

**Сапрык.**

## Мая прапанова

На 1930 год былі выдадзены білеты, у якіх толькі адзначаны нумар аружжа, яго канструкцыі, якіх паляўнічы мае ганчакоў і г. д. Што дае гэты білет маладому паляўнічаму, які ня ведае ні тэрмінаў паляваньня, ні самой дзічыны. Нічога. Калі ідзе на паляваньне, то забівае ўсё, што пападзецца. Часта такія паляўнічыя за адстрэл дзічыны ў нятэрміновы час пападаюць пад суд. Здараецца гэта толькі таму, што большасьць з уноў паступаючых зьяўляецца моладзь, якая ня ведае тэрмінаў паляваньня.

Трэба, каб у білетах быў упісаны статут паляўнічых і тэрміны паляваньня і на якую дзіч.

**А. Санчанка.**

## Пабудуем самалёт

Паляўнічыя Талачынскага раёну ўносяць на пабудову самалёту „Паляўнічы Беларусі“ 101 р. 50 к. і выклікаюць паляўнічых Коханоўскага і Круглянского раёну.

## У глухім кутку

*(Юравіцкі раён, Мазыршчына)*

Я люблю прыроду і часта, калі бываю ў сваім абходзе, нават з стрэльбай, назіраю за птахамі і іх жыцьцём. Станш сабе дзе небудзь каля куста, а тут качкі малыя поўзаюць па гразі, ці слонкі, ці рабцы.

У адным балоце я ведаў некалькі гнёздаў крыжаноў, часта наведваў іх, любаваўся імі.

Але кепска, што ў нашай вёсцы Тулагавіч ёсьць яшчэ браканьеры, якія не глядзяць на тэрміны і б'юць птах яшчэ ў чэрвені месяцы, як, напрыклад, паляўнічыя Міхэд Осіп Сямёнаў, Міхэд Іван Трахімаў і Трасьцюнок Сьцяпан Халімонаў. Гэтыя асобы не паляўнічыя, а шкоднікі і іх трэба выкінуць з саюзу.

**В-ч С. Я.**

## Ганчакі і каніна

Сярод паляўнічых гор. Аточкі і яго раёну (Пскоўская акруга) ня мала ганчатнікаў, якія з даўнейшых часоў карыстаюцца канінай для кармленьня сабак. У пэрыяд 1919—1922 г. толькі дзякуючы каніне і ўцалела ў нас некаторая частка ганчакоў.

Даваць каніну ганчаком прыходзілася і мне і ніякай шкоды для здароўя сабак я ад гэтага не заўважаў, а таксама ня чуў скаргаў і ад іншых. Але што мною ўжо заўважана, дык гэта, хаця і часовае, але значнае паніжэньне нюху ў сабак пры ўзмоцненым даваньні каніны. Гэта самае сьцьвярджаюць і іншыя нашыя паляўнічыя, у тым ліку вядомы ў Беларусі аматар ганчатнік В. Н. Селюгін, які зьяўляецца судзьдзёй ганчакоў пры „Всекохотсоюзе“.

Адмоўны ўплыў каніны на нюх трэба асабліва ўлічыць уласьнікам заводзкіх ганчакоў, якія прымаюць удзел у палявых спробах, і я-б раіў для ўхіленьня ад гэтага, не даваць ганчаком гэтых катэгорый каніны за тыдзень да спробы і ні ў якім разе не дапушчаць кармленьня канінай у дзень спроб.

**А. Л.**

---

**Каб зрабіцца добрым паляўнічым, трэба ня толькі выпісваць і чытаць сваю часопісь, а актыўна ўдзельнічаць у ёй, паляпшаць яе якасьць.**

**У 1931 годзе часопісь дасьць шмат цікавых, каштоўных нарысаў, як зрабіцца добрым паляўнічым.**

# Апавяданьні і нарысы

## Восеньская песьня

Цёмная восеньская ноч шастала па лесе халоднымі і цяжкімі кроплямі вады. Вільгаць зьбіралася на вецьці бяроз, на іголках хвоек і, спадаючы адтуль уніз, перабірала змочанае ўжо ўчарашнім дажджом пажоўклае лісьце. У лесе цёмна і ціха, як у вялікім склепе. Ужо трэці дзень, як махнуўшы нябачным хвастом на жыдзенькіх бярозках магільніку, зьнік вецер. Туман парыў зямлю ў лішняй вільгаці, халадзіў сваімі сьлізкімі абдымкамі пакрыленую хвою, што адзінокім старцам застыла на мяжы калгасных палеткаў.

Пад поўнач туман заварушыўся ад халаднаватага дажджу. Яшчэ праз некаторы час пашлі па версе рэдкія хмары. Гэтае пазнаў Пархім Варанок па частых лужах на дарозе. На гладкай і чыстай, як люстра, паверхні мізэрных азёрцаў вады гуляла неба: іскрылася мільёнамі зор, зямнела навалай абрыўкаў пустых хмар. Вада бесьперастанку хлюпацела пад нагамі. І гразь мяккая і падатная, як хлебнае цеста, працяжна стагнала і вохкала.

„І пагнаў-жа мяне нейкі д'ябал такою гразёю з хаты“—думаў Варанок, выцягваючы з гразі то адну, то другую нагу.—Сядзеў-бы на печы і ні пра што ня думаў. А то...

Тут Пархім успомніў, што ён не адзін бярэ прыступам дарожную твань. Недалёка ад яе чоўкае ў цемені па гразі, плюхціць у каляінах і лужынах Мікола Зьмітровіч. Успомніўшы пра Міколу, Пархім пачаў ужо наракаць, што той падбіў яго выбрацца такою ноччу з хаты. Потым думкі перайшлі на другое. Пархім засароміўся ад нараканьня на нявінаватага хлопца. „А дзе была мая галава? Хіба я спрабаваў адгаварыць?“

Ён супыніўся і палез праваю рукою ў кішэню. Памацаўшы там, ён хутка садануў левую руку ў другую кішэню. Потым крыкнуў у цемень ночы.

— А запалак я і ня ўзяў! Чуеш, Міколка? Запалкі дома засталіся.

Малады гучны голас скалыхнуў вільготнае паветра.

— Нічога, дзядулька, закурым! Абы што было. У мяне нейкі карабок заваляўся.

Пархім пачаў прабаваць нагою, дзе сухое месца. Калі ў нагу закалола вострым холадам вады ён ізноў успомніў печ. Цьвёрдую сухую і цёплую печ. „Старасьць забірае“— падумаў Пархім, выцягваючы табак.—„Некалі ў маладыя гады, і не шманаў-бы, а тут рукі трасуцца, хоць да зімы далёка“.

І калі палыхнуў агонь запалкі, нейкае цяпло зноў пачало грэць Пархіма. Знаў стары, адкуль ідзе гэтае дзіўнае, нязнае на вобмацак. Сіла зьдзейсьненых жаданьняў стаяла цяпер перад ім у асобе Міколы Зьмітровіча. Ухмылкай радасьці грэла старыя косьці.

— Ці памятаеш, дзядулька?—нешта задрыжэла ў горле Міколы,—ці памятаеш, як мы сядзелі вунь пад тым старцам-хвойкаю?

Пархім павёў галавою ў той бок, дзе паказваў, выцягнуўшы правую руку, Мікола. Агоньчык папяросы, якую Мікола трымаў выцягнутай рукою, здавалася, мільгацеў недзе далёка, як і хвойка. Яна ледзь выступала з чарнаты ночы. Але абое падарожнікаў у думках перабіралі ў кожную яе каржакаватаю галінку і вымыты непагодаю ствол.

Ці памятае стары? Дзіва што. Памятае! Дваццаць год таму назад, падагнаўшы сюды статак, заўважыў Пархім пад хвойкаю людзей. Ён падышоў бліжэй. Маленькі белагаловы хлопчык плакаў-енчыў ля сьцёганае цяжкім жыцьцём батрачкі. Тая ляжала на левым баку і працяжна стагнала. Усё цела дрыжэла-трэслася асінавым лістом. Праз дзень жабрачку пахавалі. Маленькі сын яе застаўся з Пархімам...

Стары ласкава глянуў на свайго спадарожніка. Як ён не падобны на маленькага хлапчука-падпасыча! Знаў Пархім: з нязьмернай глыбіны блакітных вачэй Міколы глядзеў удзячны чалавек. Весела сьмяяўся, бурліў жыцьцём. І чалавек гэты не падпасак Міколка, а інжынэр-мэліяратар! Яшчэ ў мінулым годзе скончыў Горацкую акадэмію.

Як найлепшаму сыну, так дагаджаў Міколу вечны пастух Пархім. Стараўся вырваць за сваю работу лішні пуд жыта, каб рабфакавец Мікола ні пра што ня думаў. І цяпер супакоіўся стары. Мікола стаў на ногі. І яшчэ як стаў! Бадай ці былі такімі вучонымі праз тысячагодзьдзі мінуўшчыны яго продкі. Можа ўсе яны, як матка, канчалі дарогу жыцьця ў пустым зьветрэным полі.

Цяпер інжынэр атрымаў водпуск і прыехаў да свайго прыёмнага бацькі. Тры дні як яны атрымалі ліст з калгасу Полымя. Старшыня Сымон Крыга прасіў Міколу заглянуць да яго. Вельмі-ж шмат цецярукоў лапоча па балоце. А белых курапатак—процьма! І калі Мікола ўголас чытаў Сымонаў ліст ён адчуў, як дрыжэла на яго плячы рука дзеда. Інжынэр ведаў: неперамоўны заклік паляўнічага з усёй сілай кінуў чалавека ў далёкія дні мінуўшчыны. Так было і з ім, калі вышаў першы раз у жыцьці са старэнькаю стрэльбай-пістаноўкай. Трымаючы яе на спагатове, Мікола спакойна мераў куп'істае балота. Думаў толькі пра тое, як узьнімецца з-за якога карча ліс, або заяц і Мікола ўпэўнена, як сьцябаў пугай наравістых кароў, пальне са стрэльбы.

А калі паветра затрэслася пылам першага лёгкага сьнегу—недалёка круцянуў рыжым хвастом ліс—нейкія, нязнаныя раней дрыжыкі пачалі падгульваць з рукамі. Блакітны туман паплыў перад вачыма. І ў гэтым тумане порсткім, жывым агнём быў відаць ліс. Ён спрытна ішоў па ўскраіне балота між рэдкіх кустоў багуну і хутка зьнік у бярозавым гаі. Туман спаў з вачэй. Але неспакой ад сустрэчы быў увесь дзень. Ці мо' ў чалавеку загаварыў трывогай голас далёкіх родзічаў, якія з каменьнем у руках ганяліся за зьвярынаю? І выпушчаная з рук здабыча трэсла лютым голадам усю сям'ю.

Толькі праз год пазбавіўся Мікола гэтае хваробы. Але яна зноў забірала яго, калі ён пасьля доўгага застою ў паляваньні зноў выходзіў у лес. Тое-ж

было і ў дзеда, калі з ліста Сымона Крыгі залопалі крыльлямі ажыўленых слоў старожкія цецярукі.

І цяпер выкурыўшы па скрутку махоркі, вечны пастух і яго выхаванец-інжынэр зноў мераюць нагамі балота дарогі. Прайшлі чорны і вільготны склеп—лес. Узышлі на высокі ўзгорак. Ужо ўзьнімаўся невялікі вецер і халодныя цені імжакі пачалі блудзіць па перапоўненай вадою зямлі.

— Ці далёка, дзедка, нам ісьці?

— А прыдзем,—зашумеў ні то вецер, ні то сказаў стары.—Тут у калгас адна дарога.

II.

Тое, што вышла на другі дзень, зьдзівіла інжынэра, зьбіла з панталыкі старога Пархіма.

Як толькі шэрая восеньская раніца глянула ў вокны, Крыга, Мікола і Пархім сьпешна пачалі зьбірацца на балота.

— Раней трэ' было выбрацца,—пачаў наракаць Пархім.—Пакуль зойдзем—паўдня будзе.

— Нашае ад нас ня ўвойдзе,—сказаў Крыга.—От толькі зойдзем па дарозе да Гэлі Пракопчык.

Інжынэр падняў галаву.

— Па справах якіх?

Крыга весела ўхмільнуўся. Садзячы галаву ў рамень сеткі, прагаварыў:

— Па справах. Цецярукоў біць.

— Хто, баб... жанчына?

— „Баба“, жанчына.

Тут умяшалася ў гаворку жонка Крыгі.

— Баба кажа!—Нічога, апрача таго, што бог даў, у яе бабскага і няма. Да можа яшчэ аблічча не на мужчыну нагадвае. А так яна ў нас і цясьляр, і пячнік, і дойшчыца. От што толькі добрае. Рэшты—ня дай божачка і ня судзі добрай дзеўцы. Сорам адзін! Яна і ў рыбу ходзіць, і за зьвярынаю ганяецца. Вырадак, а не жанчына!..

Старая плюнула і, скамячыўшы кавалак газэціны, падпаліла ў печы.

— Ну, паехалі,—скамандаваў Крыга.

— Пачакайце,—крыкнула яго жонка.—Чакайце, заслонку пастаўлю, а то ўдачы ня будзе.

— Цябе ніяк не адвучыць ад гэтага вядзьмарства,—нездаволена забурчэў Крыга, ступаючы праз парог.—Толькі сарамаціш і сябе і мяне.

Дзень быў хмурны. Зьверху вецер гнаў на ўсход калматнае рызьзё пустых хмар. Недзе далёка-далёка гагакалі дзікія гусі. Перапоўненая сокам зямля плюкцела пад нагамі ўраджаем травы і збожжа. Ледзь дрыжэла ад невялікага ветру лісьце ў садзе калгасу. Унізе пад абдрыпанымі яблынамі ляжалі зграбленыя кучы рознага сьмецьця.

— Та-ж пазаўчора прыбралі антонаўкі,—сказаў Крыга.—Тры тысячы пудоў яблыкаў (адно ў адно!) напакавалі для адпраўкі ў горад.

— А ігрушы былі?

— Было ды мала. У садзе нас антоноўка толькі і корміць.

— Скажы ты!—зьдзівіўся Пархім, часта аглядаючыся на нейкую дзіўную высокую пабудову.—А я не заўважыў. Што гэта за ліха?

— Ды вежа. Сілосная. Сёлета мы заквасілі ў ямах і вежы трыццаць тысяч пудоў корму. А летась было толькі тысяча пудоў. Ну і працавалі-ж мы сёлета! Усе рабілі не абы як, а ўдарным парадкам. Уборку і абмалот ураджаю скончылі першымі па акрузе. А 10 тысяч пудоў, хто першым здаў, калі ня мы? Не адсталі, а былі першымі і з асеньняй сяўбою...

„Што ён мне гаворыць пра тое, што апісваў колькі раз“—думаў інжынэр.—„Хай-бы што пра дзіўную жанчыну расказаў“.

І, як-бы адгадваючы думкі Міколы, Крыга пераняў гаворку.

— А Гэля раней нас выправілася. Матка сказала, што яна чакала-чакала нас ды пашла адна з паўгадзіны таму назад... Чуеце?..

Недзе пад ветрам лёгка здрыганулася зямля. І Мікола адчуў, як холад ранейшай трывогі зноў пабег па скуры. Потым, калі трывога зьнікла, ён спытаў у Крыгі:

— Няўжо гэта яна страляе?

— А то хто-ж? І будзь пэвен, што нешта ссадзіла. Яна дарма набояў ня любіць распшыкваць.

— Адкуль-жа вы такую выпаралі?

— Чаму адкуль? Наша! Тры гады, як уступіла з маткаю ў наш калгас. Раней у іх толькі гародчык быў. Памагалі мы ім, памагалі—ды нічога ня выходзіла. А пасьля прышлі самі ў калгас. Цяпер за тры гады, не пазнаць, што сталася з дзяўчынаю. Любога мужчыну за пояс заткне! Ды і тварам, як жанчына, выдалася нішто сабе. Нашы хлопцы спаборніцтва абвясьцілі за кім ёй замужам быць, ды бюракратка вялікая Гэля. І гаварыць пра гэтае ня хоча. Так высарамаціць „жаніха“, што той і вачэй ня ўзьніме...

Нейкае нязьведанае жаданьне кінула інжынэра наперад:

— Хадзем хутчэй! А то і нам нічога не застанецца...

— Хопіць з цябе!—хітра міргануў вокам Крыга.

*(Працяг будзе ў наступным нумары).*



Куст жарнаўца на выстаўцы.

— Ты гаворыш твой сабака добра шукае дзічыну і робіць стойкі?—ускрыкнуў Дубіна Рыгор, высокі, іспалінскай сілы мужчына, з блакітнымі, як неба раніцай, вачыма. А ў мяне сабака прапаў. Ня тое, што прапаў, а проста сьцягнуў кусок сала з сенцаў, я стаў даганяць, а ён уцякаць. Я зазлаваў, а ён— усё роўна ўцякаць. Ну, я яго дагнаў усё-ж такі, стаў адбіраць сала, а „Люкс"—за руку. Паглядзеў я на руку, а па ёй коцяцца чырвоныя ручайкі. Я рашыў прыкончыць з „Люксам" у той-жа час, але сэрца неяк сьціснулася і я падумаў: „Некалькі гэолёгічных эпох назад, калі чалавек быў такі самы лахматы, як і твой „Біль",—ён паглядзеў на белага, лахматага пса, які ляжаў каля ног Пецькі Заікі— тады сабака асьцярожна падкрадаўся да кастра чалавека і сьцягваў у яго тое, што кепска ляжала. Заглушаны культурай інстынкт сваіх продкаў мог праявіцца і ў майго „Люкса" і я перадумаў. Сабака застаўся жыць, злосьць прайшла. Я спадзяваўся пабіваць з-пад яго цецярукоў і інш.

— Дык ён і зараз жыве?—запытаўся Пецька Заіка, думаючы, што апавяданьне скончана.

— Якога чорта жыве? Ты слухай, што далей было! Адзін раз я працаваў у садзе—абкапваў градкі з памідорамі. Як ты ведаеш, у нас цяжка дастаць сьвежай рыбы, бо ў нас няма вадаёмаў. Жонка прышла з гораду і прынесла шчупака. Гэты шчупак, магчыма, ёй стоіў жыцьця! Ты ведаеш, як цяжка стаяць у разгары летняга прыпёку ў чарзе і потым ісьці дадому! І жонка дастала шчупака! Не пасьпела яна падрыхтавацца засмажыць гэтага шчупака, як Люкс тут зноў праславіўся. Ён лапай адчыніў шафку і ў міг загуляў па двары з шчупаком у зубах.

— І тут праявіўся інстынкт яго дрэўніх продкаў,— сказаў з усьмешкай Заіка.

— Толькі з той розьніцай, што продкі „Люкса" лавілі рыбу ў рэчцы, а ня ў шафцы!—ускрыкнуў Дубіна.—Апроч таго, калі жонка крыкнула на „Люкса": „пакінь", дык ён завурчэў, а калі падышла адабраць рыбу, уступіў у барацьбу і ёй зрабіў знак на руцэ. Я прыбег на крык жонкі. У „Люкса" з зубоў толькі хвосьцік віднеўся ад рыбы, а жонка залілася сьлязьмі. „Інстынкт то інстынкт",—падумаў я, але жонку кусаць...

— Тут ужо барацьба за жыцьцё!—філёсофскі падсказаў Пецька Заіка.

— Так, барацьба за жыцьцё,—заключыў Дубіна,— і тады я прыпомніў усе яго прадзелкі. Я прыпомніў усе тыя няпрыемнасьці, якія атрымаў з-за „Люкса" і ня раз чырванеў.

Павер, дарагі, што ня ўбіць яго я ўжо ня мог! —закрычаў Дубіна і патрос кулакамі ў паветры, сказіўшы твар.

— Між іншым, дай папярос, я табе ўсё раскажу па парадку пра „Люкса".

— Дык вось. Аднаго разу сустрэўся я з хлопцам у горадзе. Хлопец быў добры, сумленны, ніколі нікога не падводзіў. Ён арганізаваў наш калгас—ад таго яго я і знаю. Потым ён стаў пражываць у горадзе. Хлопец пытаецца: „Ну, як паляўнічаеш"?— ён таксама быў паляўнічы. „Нічога",—адказваю. „Прыяжджай, будзем паляўнічаць". І хлопец зьявіўся. Я пакладаўся на свайго „Люкса". Я спадзяваўся ва ўсякім разе ўзяць з-пад яго на дваіх 20 цецярукоў,— а іх было шмат. Я ніколі ня мог падумаць, што „Люкс" так пасароміць мяне! Я думаў, што, ну, скажам, будзе кепска першы раз працаваць, але ўсё-ж рабіць стойкі будзе! Так я і сказаў свайму хлопцу: „Рабіць стойкі будзе",—кажу,—„а больш нам нічога ня трэба".



Плямістыя алені ў запаведніку.



Беркут.

Пайшлі на балота. Дзень быў найлепшы. З раніцы сонца азалаціла сваімі праменьнямі траву і кусты. Каплі расы—такія крыштальныя, сьветлыя каплі—віселі на лістох і даволі наставіць рот і крануць пальцам ліст, як яна студзёным комам скоціцца ў рот па лісту і ажывіць цябе сваёй вільгацію. „Люкс" бегаў узад і ўперад, падымаў цецярукоў крокаў на на сто ад нас, а стрэліць не ўдавалася. Я падазваў яго і адлупіў. Люкс вінаватымі вачмі паглядзеў на мяне і зноў зьнік у кустох. Зьнік і няма. Мы яшчэ некалькі прайшлі па балоту, а Люкса няма. Тады мы зьвярнуліся і давай кружыць у тым самым месцы, дзе зьнік Люкс. Я думаў, што на стойцы дзе-небудзь стаіць. І ў скорасьці ўбачыў белую пляму між дробных шэрых сасонак. Падыходжу, стаіць Люкс, выцягнуўшыся. Я падазваў хлапца і кажу: „От, бачыш, адлупіў і стойка знайшлася!" Мы асьцярожна, з стрэльбамі на ізгатоўку падкраліся да Люкса. Люкс стаіць. „Вазьмі, Люкс!" Люкс ірвануўся ўперад і зноў стаў, як укапаны. Бачу я нешта ў майго хлопца нос зьвярнуўся на бок і ён стаў усьміхацца ў кулак. Я падышоў і гляджу. Аж Люкс недзе набраў у пушысты хвост „дзядоў" [1]), хвост сплёўся ў вяроўку і Люкс зачапіўся ім за сухі сучок сасонкі. Тут я ўжо ня мог устаяць. І я скрыўся ў кустох.

[1]) „Дзяды" — мясцовая назва травы з калючкамі, якая расьце на гародах і інш.

Адчапіў, відаць, Люкса гэты самы хлапец, бо я ўжо абедаў, калі апошні, разам з Люксам, прышоў у калгас і сказаў: „Твой Люкс паскудны мэтыс. Ён помесь сэтара з ганчаком, прычым папала трохі крыві „дваraніна", а падобен ён да шпіца". А я яму сказаў: „Не, ён чыстакроўны ангельска-ірляндзкі сэтар, але пад уплывам культуры зьмяніўся, як зьмяняецца на працягу некалькі вякоў усякая жывёла".

— Гэта праўда. Бязумоўна, некалькі дзесяткаў тысяч год назад твой Люкс мог быць самым чыстакроўным псом—як сабака—толькі не ангельска-ірляндзкім сэтарам!—ускрыкнуў Пеця Заіка.

— Ну, і асраміў мяне тады мой Люкс!—уздыхнуў Дубіна і працягваў апавяданьне.

— Як-жа я мог прасьціць тады Люксу шчупака, а тым часам і сала ўсплыла наверх. І я Люкса, у той момант, калі Люкс чуць не падавіўся хвастом шчупака—ён баяўся, каб не адабралі—я падбег да яго і памаленьку, здаецца, ударыў яго пад ніжнюю чэлюсьць. Люкс паваліўся, як падкошаны, потым падняўся і хацеў зрабіць знак на другой маёй руцэ, але я яшчэ мацней ударыў яго па тым самым месцы. Люкс спусьціў дух.

— Ад ворана ніколі ня можа радзіцца сокала,—заключыў Пеця Заіка—ён удаўся, як капля ў каплю, у матку, атрымаўшы ў спадчыну ўсе яе якасьці. Я яе добра ведаю!

— Дык, значыць, з тваім сабачкам можна будзе паляўнічаць?—няўверана сказаў Дубіна.—А каля нас, недалёка ад калгасу „Чырвоны Бор" шмат вывадкаў.

**Мік. Цэлеш.**



Паляўнічы павільён на выстаўцы.

**ДА ВЕДАМА Т-ВАЎ І ПАЛЯЎНІЧЫХ!** Просім зьвяртацца да рэдакцыі па новаму наступнаму адрасу. Менск, Савецкая 63, К-ра В-ва „Беларуская Вёска" для рэдакцыі „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ".

# Афіцыйны аддзел

*(Працяг палажэньня аб паляўнічых ячэйках)*

17. Паміж агульнымі сходамі Бюро ячэйкі кіруе ўсімі справамі яе на падставе цыркуляраў і інструкцыяй Праўленьня Таварыства і пастаноў агульнага сходу членаў ячэйкі.

Пастановы Бюро ячэйкі прымаюцца простай большасьцю галасоў і запісваюцца ў пратаколы, якія ў копіі перасылаюцца Праўленьню свайго Таварыства паляўнічых.

18. Бюро ячэйкі павінна ўсе цыркуляры, інструкцыі і іншыя паперы, якія яно атрымлівае ад вышэйшых органаў, а таксама і пратаколы сваіх пасяджэньняў хаваць у парадку ў сваіх справах і прадстаўляць іх па запатрабаваньнях Рэвізійнай Камісіі і прадстаўнікоў Праўленьня Таварыства паляўнічых.

Бюро павінна таксама весьці прасьцейшую кнігу прыходу і выдаткаваньня сродкаў, і хаваць у парадку ўсе грашовага і маемаснага характару дакуманты.

19. У выпадку, калі паасобныя члены Бюро ячэйкі ня будуць адпавядаць ускладзеным на іх агульным сходам абавязкам, або выявяць сваю бязьдзейнасьць, агульны сход можа вывесьці іх са складу Бюро і выбраць на іх месца новых членаў.

За страты, зробленыя ячэйцы членамі Бюро парушэньнем сваіх абавязкаў, адказваюць салідарна ўсе члены Бюро, за выключэньнем выпадкаў, калі той ці іншы абавязак быў пастановаю Бюро ўскладзены на якога-небудзь аднаго члена Бюро; у апошнім выпадку—за страты адказвае толькі ён адзін.

20. Аб сваёй дзейнасьці Бюро робіць справаздачу перад агульным сходам два разы ў год.

## V. Праверка спраў ячэйкі

21. Для праверкі спраў, грашовай і маемаснай справаздачы ячэйкі агульны сход яе членаў выбірае Рэвізійную Камісію ў складзе трох членаў тэрмінам на адзін год.

22. Рэвізійная Камісія павінна правяраць справы, грашовую і маемасную справаздачнасьць ячэйкі не радзей, як два разы ў год.

Аб зробленай рэвізіі складаецца акт, у якім падрабязна адзначаецца стан спраў, грашовай і маемаснай справаздачы і ўсё тое, што будзе выяўлена пры рэвізіі адносна непарадкаў у справах і грашовай справаздачнасьці, а таксама адносна недахопаў у рабоце Бюро.

Пратаколы Рэвізійнай Камісіі ў копіі перасылаюцца Праўленьню Таварыства.

23. У выпадку выяўленьня значных недахопаў у рабоце, бязьдзейнасьці або злоўжываньняў усяго Бюро ці паасобных яго членаў, Рэвізійная Камісія мае права склікаць агульны сход, на якім паставіць пытаньне аб перавыбарах усяго Бюро, або паасобных яго членаў.

## VI. Ліквідацыя ячэйкі

24. Ячэйка паляўнічых ліквідуецца: а) па пастановах агульнага сходу, б) па пастанове Праўленьня Таварыства, в) у тым выпадку, калі лік членаў ячэйкі стане меншым за 3.

Пры ліквідацыі ўся маемасьць, якая застанецца пасьля папаўненьня страт і выдаткаў ячэйкі, ідзе ў прыбытак Праўленьня Таварыства, або пераходзіць пад яго загадваньне.

## Калі на якога зьвера паляваць і цэны на пушніну.

| НАЗВА ЗЬВЯРОЎ | За першы гатунак | | Адстрэльваецца |
|---|---|---|---|
| | Руб. | Кап. | |
| Вавёрка валасяная | — | 45 | з 1/XII |
| „ мездравая | — | 50 | „ |
| Барсук | 3 | — | з 15/X |
| Воўк лясны | 25 | — | увесь час |
| „ стэпавы | 20 | — | „ |
| Гарнастай | 3 | — | з 1/XII |
| Заяц-бяляк | — | 50 | з 15/X |
| „ шэры | — | 55 | „ |
| Крот пласьцінчаты | — | 40 | — |
| „ трубчаты | — | 20 | — |
| Кошка хатняя | ад 1 р. 20 к.—1 р. 50 к. | | — |
| Куніца | 30 | — | з 1/XII |
| Крыса вадзяная | — | 8 | — |
| Лісіца (па ўсіх раёнах) | 20 | — | з 15/X |
| Норка | 10 | — | з 1/XII |
| Рысь | 35 | — | з 15/X |
| Сабака хатняя | 2 | 50 | — |
| Тхор чорны | 4 | — | — |
| Грус (мэтыс) | 3 | — | — |

РЭДКАЛЕГІЯ: Міх. Шмідт, П. Тамашэўскі, Г. Сільнікаў.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. Шмідт.

